НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 27 (912) 22 ліпеня 2015 www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыдня, у серады

## Палова беларусаў атрымлівае на рукі менш за $315



Сярэдні заробак на тым жа ўзроўні, што і перад выбарамі-2010. **Старонка 6.**

## Падпішыся сам, падпішы дзядоў!

«Наша Ніва» — гэта ваша ніва. **Старонка 2.**

# Далей без Статкевіча

**Апазіцыя ідзе на выбары трыма калонамі. Старонкі 3-5.**



**Сяргей Калякін**



**Таццяна Караткевіч**



**Анатоль Лябедзька**

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## З гразі ў князі і назад

Гендырэктара хакейнага «Дынама» Максіма Суботкіна абвінавачваюць у «нанясенні ўрону ў асабліва буйным памеры». **Старонка 10.**



## Як бізнэсоўца-мільянера кінулі на грошы мінскія следчыя

Расіянін выклаў 30 тысяч даляраў за «аб'ектыўнае расследаванне», а затым здаў «дабрадзеяў» КДБ. **Старонка 11.**



**Палессе, якога хутка не стане: Кудрычы**

Рэпартаж. **Старонка 12.**

**Уступная кампанія — 2015:** першыя вынікі.

# Топ-спецыяльнасць — эканамічнае права

Беларускія ўніверсітэты вызначыліся з цэнамі на навучанне і прахаднымі баламі. У параўнанні з мінулым годам і кошты, і балы трошкі падраслі.

Традыцыйна, самая дарагая адукацыя ў Беларускім дзяржаўным універсітэце. 24,7 мільёна рублёў штогод прыйдзецца плаціць за навучанне міжнароднаму праву на факультэце міжнародных адносін, правазнаўству і эканамічнаму праву — на юрфаку. На 320 тысяч танней каштуюць «лінгвакраіназнаўства» і «міжнародныя адносіны» на ФМА, спецыяльнасць «дызайн» на факультэце сацыякультурных камунікацый, «усходняя філалогія» на філфаку. Навучанне на эканамічным факультэце абыдзецца ў 24 мільёны.

Наступны па цэнах — факультэт камп'ютарных сістэм і сетак у Беларускім дзяржаўным універсітэце інфарматыкі і радыёэлектронікі. Тут адукацыя каштуе 23,5 мільёна рублёў. Медыцынскі ўніверсітэт запрашае на платнае будучых стаматолагаў за 23 мільёны. А за навучанне на факультэце інфармацыйных тэхналогій і кіравання ці інжынерна-эканамічным факультэце БДУІР трэба будзе заплаціць 21,5 мільёна.

У Нацыянальным тэхнічным універсітэце самая дарагая адукацыя для будучых архітэктараў. 21,2 мільёна трэба будзе аддаць студэнтам ці іх бацькам за навучанне па спецыяльнасцях «архітэктурны дызайн» і «архітэктура». Энергетычны факультэт, мытная справа, інфармацыйныя тэхналогіі і робататэхніка «каштуюць» 20,3 мільёна, на астатніх факультэтах максімальная цана навучання 20,2 мільёна.

На «адміністратыўна-прававую дзейнасць» у Акадэмію МУС бралі са 174 баламі (летась 144).

TUT.BY

**Топ-5 спецыяльнасцяў**

| Спецыяльнасць | ВНУ | прахадны бал |
|---|---|---|
| «эканамічнае права» | БДУ | 396 |
| «міжнароднае права» | БДУ | 383 |
| «міжнародныя зносіны» | БДУ | 378 |
| «лінгвакраіназнаўства» | БДУ | 377 |
| «інфарматыка і тэхналогіі праграмавання» | БДУІР | 370 |

Усяго цэны на навучанне выраслі за год на 10—15%, у залежнасці ад ВНУ.

Што тычыцца прахадных балаў на бюджэт, дык пакуль што не ўсе ўніверсітэты іх вызначылі. Але сярод тых, што балы падлічылі, БДУ ізноў наперадзе. Так, для паступлення на спецыяльнасць «эканамічнае права» трэба было набраць 396 балаў (з 400), на «міжнароднае права» — 383, «міжнародныя зносіны» — 378, «лінгвакраіназнаўства» — 377.

У БДУІР самыя высокія балы на спецыяльнасці «інфарматыка і тэхналогіі праграмавання» — 370, «эканоміка электроннага бізнэсу» — 365, «праграмнае забеспячэнне інфармацыйных тэхналогій» — 361.

У Лінгвістычным універсітэце цяжэй за ўсё будзе трапіць на спецыяльнасць «англійская мова і другая замежная мова са спецыялізацыяй». Каб вывучаць англійскую на перакладчыцкім факультэце і факультэце міжкультурных камунікацый трэба набраць не менш за 366 і 362 балы адпаведна.

**Улад Швядовіч**

## Сціісла

**Выкладчык за хабар рабіў курсавыя**

Завяршылася расследаванне крымінальнай справы ў дачыненні да выкладчыка Буда-Кашалёўскага дзяржаўнага аграрна-тэхнічнага каледжа. Следства мяркуе, што ён за пэўную плату падрыхтоўваў ад імя навучэнцаў курсавыя праекты па сваім прадмеце і выстаўляў за іх станоўчыя адзнакі. Памер хабару складаў, як правіла, $50. Часам браў бензінам і саляркай.

**Сірыя папрасіла грошай у Беларусі**

Прэм'ер-міністр краіны Ваіль аль-Халькі заявіў, што вядзе перамовы з Расіяй і Беларуссю аб павелічэнні аб'ёму эканамічнага супрацоўніцтва і новых крэдытах. Сірыя вядзе перамовы аб магчымасці ўступлення краіны ў Еўразійскі эканамічны саюз.

**Грузін-аферыст спакусіў гамяльчанак на $12 тысяч**

48-гадовага замежніка падазраюць у серыі шлюбных махлярстваў. Ён праходзіць фігурантам па чатырох крымінальных справах аб махлярстве, здзейсненым летась. Ён паспеў завесці рамантычныя адносіны яшчэ з чатырма жанчынамі. Усе яны страцілі грошы, а таксама залатыя ўпрыгожванні.

**Свіная чума вяртаецца?**

Століншчына знаходзіцца пад пагрозай праз зафіксаваныя выпадкі афрыканскай чумы ў прымежных раёнах Украіны. Знішчаць свіней у Столінскім раёне пакуль не будуць, проста перапішуць пагалоўе.

**ЯМ**

# Дзе ў Беларусі найлепш расце бульба?

Беларусы сярод сусветных лідараў па спажыванні бульбы. Пры гэтым гаспадаркі штогод скарачаюць плошчы «пад бульбу». Летась для гэтых мэтаў было выдзелена 310 тысяч гектараў. Падчас прыходу да ўлады Аляксандра Лукашэнкі лічба была ў 2,5 раза большай.

Агулам за мінулы год было сабрана 6,28 мільёна тон бульбы — у сярэднім па 204 цэнтнеры з кожнага гектара.

Дзе зямля ўрадзіла найлепш? Белстат апублікаваў дадзеныя па ўраджайнасці бульбы ў розных раёнах краіны. Лічбы не выглядаюць абсалютнай ісцінай, бо не ўлічваюць валавы збор.

Напрыклад, у раёне-лідары, Гродзенскім, сабралі бульбы ў пяць разоў менш, чым у Воранаўскім.

Аднак у рэйтынгу ацэньвалася менавіта ўраджайнасць.

**Топ-5 самых ураджайных раёнаў (цэнтнераў бульбы з гектара)**

1. Гродзенскі 395
2. Клічаўскі 380
3. Нясвіжскі 370
4. Бабруйскі 367
5. Астравецкі 365

**Топ-5 самых неўраджайных раёнаў (цэнтнераў бульбы з гектара)**

1. Касцюковіцкі 54
2. Расонскі 61
3. Браслаўскі 66
4. Хоцімскі 79
5. Лёзненскі 87

Адметна, што ў трох раёнах Беларусі — Кармянскім, Круглянскім, Дрыбінскім — бульбу не вырошчваюць зусім.

**Ягор Марціновіч**

**Уздым Літвы: паганская імперыя ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе**

Часопіс *Arche* выдаў па-беларуску 400-старонкавую працу брытанскага даследчыка Стэфана Крыстафера Роўэла пад назвай «Уздым Літвы: паганская імперыя ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе, 1295—1345». Перад гэтым праца вытрымала 4 выданні па-англійску і была перакладзена на літоўскую мову.

У даследаванні паказваецца, як Вялікае Княства Літоўскае ўпершыню набыло вагу на міжнароднай арэне.

Разглядаецца шлях Літвы да велічы пад уладай Гедыміна, а таксама закранаюцца дасягненні яго папярэдніка Віценя (1295—1315) і яго выбранага наступніка Яўнута (1342— 1345).




Найбольшая ўвага надаецца таму, як Вялікае Княства выкарыстоўвала вайсковыя і палітычныя слабасці суседзяў, маніпулявала канфесійнымі межамі каталіцтва ў Прыбалтыцы і праваслаўя на Русі, а таксама яго дыпламатыя ў адносінах з замежнымі ўладарамі, якія былі гатовыя як выступіць разам з паганамі-літоўцамі (і жаніцца з паганскімі князёўнамі), так і падтрымліваць крыжовыя паходы супраць іх.

Шукайце кнігу ў кнігарнях, у незалежных распаўсюднікаў, а таксама праз сайт *arche.by*.



## Апытанне на nn.by

**Калі б выбары адбываліся сёння, за каго Вы б прагаласавалі?**

| | | |
|---|---|---|
| На выбары не пайду | 1126 | 61% |
| Калякін Сяргей | 12 | 1% |
| Караткевіч Таццяна | 262 | 14% |
| Лукашэнка Аляксандр | 103 | 6% |
| Лябедзька Анатоль | 98 | 5% |
| Улаховіч Мікалай | 5 | 0% |
| Пайду, але прагаласую супраць усіх | 236 | 13% |

Прагаласавала 1842 чалавекі

## Самае чытанае на nn.by за 15—21 ліпеня

1. «Для Расіі не праблема прымусіць Лукашэнку танчыць канкан»
2. Апублікаваныя кадры першых хвілін пасля трагедыі MH17: расійскія баевікі корпаюцца ў рэчах загінулых і фатаграфуюцца
3. «Як не было омскай казармы. Яны безыменныя, усе 23»
4. З прэзідэнцкай гонкі выкраслілі Статкевіча і яшчэ пяць прэтэндэнтаў
5. Фрык-шоу набірае абароты. За пасаду прэзідэнта пазмагаюцца яшчэ дзве жанчыны
6. Таццяна Караткевіч: «Чаму я павінна здымацца? Я самы моцны кандыдат з усіх!»
7. Маці чатырох дзяцей: пайшла ў кандыдаты, бо муж сказаў
8. Пяць фактаў пра казацкага атамана Мікалая Улаховіча, які заявіўся на прэзідэнцкія выбары
9. Ярмошына прызямлілася ў Вене
10. Тры жанчыны з Гродна няўдала павялічылі вусны

# Далей без Статкевіча

Збіраць подпісы будуць **васьмёра прэтэндэнтаў** у прэзідэнты.


Жонка Статкевіча Марына Адамовіч (у цэнтры) і паэт Уладзімір Някляеў прадстаўлялі інтарэсы Статкевіча ў ЦВК.

Прэзідэнцкая кампанія пераадолела першы этап — фарміраванне і рэгістрацыя ініцыятыўных груп. Сёлета жаданне пазмагацца за крэсла кіраўніка краіны выявілі чатырнаццаць чалавек. Праз сіта адбору ЦВК змаглі прайсці далёка не ўсе.

У асноўным ЦВК забракала шчырых дзівакоў. Гэта людзі, у камандзе якіх не назбіралася нават неабходных ста чалавек, але яны збіраліся сабраць 100 тысяч подпісаў. Хадзілі нават канспіралагічныя тэорыі, што ўлада адмыслова іх вылучае, каб дыскрэдытаваць апазіцыю. Аднак усё ж гэтыя версіі выглядаюць малаімавернымі. Найхутчэй, гэтыя людзі насамрэч хацелі проста прапіярыцца (як Ірына Першына, якая пайшла на выбары паводле кантракта, а яшчэ таму, што рудая), вырашыць нейкія свае лакальныя праблемы. У прынцыпе, гэта нармальны працэс. Такія людзі з'яўляюцца ў выбарчых кампаніях і ў ва Украіне, і ў Расіі, і ў ЗША.

З дробных ініцыятыўных груп зарэгістравалі толькі настаўніцу з Брэста Жанну Раманоўскую. Хто яна такая і чаго хоча, ніхто не ведае. Сама Жанна інтэрв'ю не дае.


Жанна Раманоўская — адзіная зарэгістраваная прэтэндэнтка з малой ініцыятыўнай групай.

| № | Кандыдат | Група |
|---|---|---|
| 1 | Аляксандр Лукашэнка | 10577 |
| 2 | Сяргей Гайдукевіч | 2481 |
| 3 | Таццяна Караткевіч | 1993 |
| 4 | Сяргей Калякін | 1510 |
| 5 | Мікалай Улаховіч | 1426 |
| 6 | Анатоль Лябедзька | 977 |
| 7 | Віктар Цярэшчанка | 946 |
| 8 | Жанна Раманоўская | 110 |

Нямала такіх кандыдатаў было і ў 2001, і 2010 у Беларусі. Адзіным выключэннем з'явіліся выбары 2006 года, напярэдадні якіх быў беспрэцэдэнты ціск на дэмакратычных актывістаў, шматлікія крымінальныя справы і рэальныя турэмныя тэрміны. У такіх неспрыяльных умовах паспрабаваць шчасця рызыкавалі толькі загартаваныя палітыкі.

Асабняком варта паставіць адмову ў рэгістрацыі ініцыятыўнай групы Міколы Статкевіча. У прынцыпе, ад самага пачатку было ясна, што ЦВК не пойдзе на рэгістрацыю палітвязня. Тым не менш для многіх людзей з незалежнага грамадства запіс у ініцыятыўную групу быў актам маральнай падтрымкі Міколы. Камандзе Статкевіча ўдалося сабраць вялізную ініцыятыўную групу, у якую запісалася 1700 чалавек. Выглядае, што цяпер большасць з іх ніяк браць удзел у выбарах не будзе. Можна гаварыць, што на кожных выбарах нехта з апазіцыі прытрымліваўся канцэпцыі байкоту, але сёлета яна атрымала найбольшы распаўсюд. Як сведчаць апытанкі на сайтах недзяржаўных СМІ, большасць чытачоў якраз не збіраецца ўдзельнічаць у выбарах.

Апазіцыйных прэтэндэнтаў сёлета трое. Найбольшую ініцыятыўную групу сабрала Таццяна Караткевіч, якая можа стаць першай жанчынай-кандыдатам. Яе падтрымліваюць «Гавары праўду», Партыя БНФ, а таксама частка сацыял-дэмакратаў.

Левы фланг прадставіць ветэран беларускай палітыкі Сяргей Калякін, ён спрабаваў стаць кандыдатам яшчэ ў 2001-м, але зняўся на карысць Ганчарыка. Калякін кажа, што будзе пазіцыянаваць сябе як сацыяліста, а шукаць дапамогі ў Маскве лічыць бессэнсоўным. Некаторыя палітолагі мяркуюць, што Калякін паспрабуе сыграць на традыцыйным электараце Лукашэнкі, незадаволеным скасаваннем некаторых сацыяльных ільготаў.

Нарэшце, Анатоль Лябедзька будзе прадстаўляць больш ліберальны фланг. Лозунг кампаніі Лябедзькі застаўся ў спадчыну ад кампаніі Яраслава Раманчука — «Мільён новых рабочых месцаў».

Звяртае на сябе ўвагу вялікая колькасць кандыдатаў, якіх прынята называць спарынг-партнёрамі Лукашэнкі. Такіх ажно трое: Гайдукевіч, Цярэшчанка і Улаховіч. Ва ўсіх іх у ініцыятыўных групах ад тысячы і болей чалавек. Калі да першых двух выбарцы ўжо крыху прызвычаіліся (**старонка 5**), то вылучэнне Улаховіча (**старонка 4**) было абсалютна нечаканым. Зрэшты, казак мала таго што не крытыкуе Лукашэнку, але і заклікае падтрымліваць яго на выбарах.

Адметнасцю кампаніі становіцца яшчэ тое, што сёлета амаль ніхто, апроч Гайдукевіча і Улаховіча, не абяцае зборшчыкам подпісаў грошай.

Збор подпісаў за кандыдатаў будзе працягвацца да 21 жніўня. Пасля гэтага чакаецца афіцыйная рэгістрацыя, выступы на тэлебачанні, паездкі па рэгіёнах. Уласна выбары адбудуцца 11 кастрычніка.

**Зміцер Панкавец**

**Шульгана аштрафавалі на 5,2 мільёна**

Кандыдат ад «дармаедаў» Юрый Шульган не змог перадаць дакументы на рэгістрацыю ініцыятыўнай групы. Справа ў тым, што ён прыйшоў да ЦВК… нападпітку, і ахова не пусціла яго ў будынак. Кандыдат-недарэка зрабіў яшчэ пару спробаў прабіцца ў Цэнтрвыбаркам, але ўсё беспаспяхова. Пасля супрацоўнік службы аховы Лукашэнкі выклікаў дваіх міліцыянтаў, якія і затрымалі Шульгана і кіраўніка ягонага штаба Паўлюка Канавальчыка. Больш за двое сутак да суда яны правялі на Акрэсціна. 20 ліпеня суд аштрафаваў кожнага на 5,2 мільёна рублёў за мацюкі.

**Ярмошына ў Вене**

Старшыня Цэнтрвыбаркама знаходзіцца пад санкцыямі Еўрасаюза — але гэта не перашкодзіла ёй узяць удзел у канферэнцыі АБСЕ. Беларусь прадстаўляў яшчэ і праваабаронца Валянцін Стэфановіч. Па яговых словах, Ярмошына пахвалілася тым, што падчас выбараў будзе арганізавана галасаванне слабавідушчых.

# Не дайшлі да старту

Цэнтрвыбаркам адмовіў у рэгістрацыі не толькі Міколу Статкевічу. Шэсць малавядомых ахвотнікаў пазмагацца за прэзідэнцкую пасаду не здолелі выканаць патрабаванні заканадаўства і падаць належную заяву ў Цэнтрвыбаркам. Хто гэтыя людзі?

Дзве заяўкі прыйшлі з Наваполацка. Мясцовы бізнэсмен **Андрэй Канавец** мае турыстычную і транспартную фірмы. Некалькі гадоў ён спрабаваў прывезці ў Мінск культавы гурт *Metallica*, аднак гісторыя скончылася скандалам. Група не даехала ў Беларусь і нібыта нават не мела такіх планаў. Бізнэсмен тады фігураваў як Кагалёў, аднак змяніў прозвішча на жончына. Сваіх палітычных поглядаў прэтэндэнт не выказваў, толькі абяцаў «пабудаваць новае жыццё ў Беларусі».

Яму адмовілі ў рэгістрацыі па некалькіх прычынах. Канавец не жыў у Беларусі на працягу апошніх дзесяці гадоў: у сярэдзіне 2000-х ён сядзеў у калоніі ў Расіі. Апроч таго, некалькі сяброў яго ініцыятыўнай групы былі запісаныя з памылкамі. Калі іх выкраслілі, засталося менш за 100 чалавек.

Не хапіла належнай падтрымкі і ў ягонага земляка **Аляксандра Юдаева**, сына былога намесніка гендырэктара «Нафтана». Рэжысёр навапалацкага Палаца культуры апеляваў да будысцкіх лічбаў і містыкі. «Ёсць прароцтва, што Лукашэнка быў блаславёны беларускімі духоўнымі асобамі на 21 год кіравання», — патлумачыў ён сваё вылучэнне.

Юдаеў лічыць сябе прыхільнікам «традыцыйных каштоўнасцяў» і бэсціць Еўропу за распусту. «Заходнія СМІ спрабуюць паказаць, што Расія — агрэсар. Але я бачу, што гэта не так», — расказваў ён свае стаўленне да канфлікту ва Украіне.

З ім быў нязгодны штаб **Ірыны Першыной** — самай трагікамічнай вылучэнкі. «Крым — гэта Украіна. А Беларусі трэба ісці ў Еўропу», — пераканаая кіраўніца яе ініцыятыўнай групы Марыя Храмцова. Чаму каментары давала не сама кандыдатка?

«Таму што Ірына — проста выканаўца ролі па дамове прадзюсіравання, яна была адабраная па рудым колеры валасоў», — тлумачыць Храмцова. Заяўку Першыной склала студыя *Imagemaker*, дзе яна працуе. А Ірына проста была адзінай у кампаніі супрацоўніцай, старэйшай за 35 гадоў. Зрэшты, гэтага для прамежкавай перамогі не хапіла. ЦВК падлічыў, што дадзеныя толькі 39 чалавек у яе ініцыятыўнай групе адпавядаюць рэчаіснасці.

Заяўку настаўніцы пачатковых класаў **Тамары Біруковай** разглядаць не сталі. Яна прынесла патрэбныя 100 подпісаў толькі ў дзень пасяджэння (падчас падачы дакументаў было толькі 53 чалавекі). Жанчына спадзявалася, што ў прэзідэнты пойдзе яе муж-афганец, але той сказаў ісці Тамары. Бірукова мяркуе, што Беларусі патрэбная парламенцкая форма кіравання, і гатовая на знак пашаны стаць на калені перад бацькам Міколы Статкевіча.

Нарэшце, пра рэальнасць кандыдата **Сяргея Заблоцкага** дагэтуль ніхто не ведае. Ён дасдаў заяву па пошце, ды яшчэ і ўклаў не ўсе патрэбныя дакументы.

**Ягор Марціновіч**


Аляксандр Юдаеў.


Ірына Першына.

# Пяць фактаў пра казацкага атамана Мікалая Улаховіча

За дзесяць хвілін да сканчэння прыёму дакументаў ад патэнцыйных кандыдатаў у прэзідэнты з'явіўся яшчэ адзін нечаканы прэтэндэнт. Ім аказаўся 64-гадовы Мікалай Улаховіч, у ініцыятыўнай групе якога больш за тысячу чалавек. Што гэта за персанаж? «НН» сабрала цікавыя факты.


«Народныя навіны Віцебска»

## 1. «Народны генерал»

Мікалай Улаховіч нарадзіўся ў 1951 годзе ў Мінску. Ён вайсковы палкоўнік у адстаўцы. Хаця сам сябе называе «народным генералам». Па яго словах, свой чын ён атрымаў ад казакоў на Вялікім коле.

Улаховіч заснаваў «Беларускае казацтва» ў 1995 годзе. На той час гэта была фактычна адзіная казацкая арганізацыя ў краіне. Праз нейкі час з'явілася «Усебеларускае аб'яднанне казацтва», якое ўзначаліў Мікалай Ярковіч. Арганізацыі Улаховіча і Ярковіча не маюць паразумення паміж сабой. Цікава, што адзін час Ярковіч лічыўся паслом Расійскага казацтва ў Беларусі.

Менавіта «Беларускае казацтва» Улаховіча — гэта найменш звязаная з Расіяй казацкая арганізацыя нашай краіны, яна больш звязаная з уладай. «Беларускае казацтва адраджалася па добрай волі Аляксандра Лукашэнкі. Наша партыя заўсёды падтрымлівала і падтрымлівае лінію прэзідэнта», — казаў у інтэрв'ю Улаховіч.

Тым не менш у сваіх ціперашніх інтэрв'ю Улаховіч кажа, што «Крым расійскі і заўсёды быў такім. Украіна за час свайго кіравання там разбурыла сады, гароды. Цяпер ідзе адраджэнне Крыма».

## 2. Газета «Лічность»

«Наша Ніва» ў 2001 годзе пісала, што Мікалай Улаховіч быў заснавальнікам газеты «Лічность», якая атрымлівала папярэджанне ад Дзяржкамдруку (папярэднік Міністэрства інфармацыі) за «распальванне міжрэлігійнай і міжнацыянальнай варожасці». Тым не менш, нягледзячы на ціск расійскага казацтва, Улаховіч памяняў у статуце сваёй арганізацыі словы «на праваслаўных традыцыях», а замест іх ужыў «на хрысціянскіх традыцыях». Сёлета ў інтэрв'ю «НН» ён расказваў, што выключыў з «Беларускага казацтва» сотніка Марозава, які выступаў супраць прыняцця ў казацтва габрэяў.

«НН» адзначала, што Улаховічу ўдавалася паспяхова сумяшчаць атаманства з камерцыйнай дзейнасцю. У 1995—1997 гадах у зваротах у прэсе ён падпісваўся як кіраўнік фонду «Нерухомасць».

## 3. Старшыня кішэннай партыі

Мікалай Улаховіч, апроч казацкай нагрузкі, нязменна ўзначальвае Беларускую патрыятычную партыю. Скажам мякка, не самая вядомая партыя, якая не спрабуе ўдзельнічаць у палітычнай барацьбе. Напрыклад, сёння ў палацы прадстаўнікоў няма ніводнага сябра БПП. Прытым што сам Улаховіч неаднакроць казаў, што яго партыя падтрымлівае курс Аляксандра Лукашэнкі.

Палітолаг Уладзімір Роўда адзначае, што праграма партыі з'яўляецца сумессю камуністычных і панславісцкіх ідэй. Нягледзячы на татальную падтрымку Лукашэнкі, БПП у 2007 нават атрымала папярэджанне Мінюста.

## 4. Мінскі аблспажыўсаюз

Ад 18 чэрвеня (роўна месяц да рэгістрацыі) Мікалай Улаховіч быў абраны намеснікам старшыні Мінскага абласнога спажывецкага саюза. Да гэтага на працягу многіх гадоў ён узначальваў прадпрыемства «Жылкамунтэхніка», быў намеснікам Мінскага абласнога ўпраўлення ЖКГ. Не скажаш, што пасады надта высокія, аднак даволі хлебныя.

## 5. Казацкія прынцыпы Улаховіча

Мікалай Улаховіч кажа, што беларускае казацтва вядзе пачатак ад Канстанціна Паклонскага, які па загадзе рускага цара Аляксея Міхайлавіча стварыў казацкія палкі на тэрыторыі сучаснай Беларусі ў 1654—1655. Праўда, Улаховіч змоўчвае, што літаральна праз год Паклонскі перайшоў на бок Рэчы Паспалітай. Сайт *kazak.by* увогуле называе гэта «здрадай свайму народу і рускаму ўраду». Полк беларускіх казакоў пасля гэтага бараніў гарады Рэчы Паспалітай ад расійскай агрэсіі.

«Я заўсёды паўтараю, што казак — гэта не толькі бурка і папаха. Гэта лад жыцця. Казак павінен быць узорным сем'янінам і крэпкім гаспадаром, бамжоў у свае шэрагі мы не пускаем. Які ты казак, калі не можаш забяспечыць сваю сям'ю, зарабіць хаця б на форму, амуніцыю», — казаў Улаховіч.

«Беларускае казацтва» мае цесныя кантакты з Праваслаўнай царквой. Пагадненне аб супрацоўніцтве Улаховіч падпісваў яшчэ з мітрапалітам Філарэтам, таму нярэдка атаман з'яўляецца на праваслаўных сходках. Дарэчы, нейк ён выхваляўся, што сябры яго арганізацыі ладзілі авія- і мотакрыжовыя хады.

Такі вось яўна звязаны з лукашэнкаўскімі ўладамі кандыдат вымалываўся напрыканцы падачы дакументаў.

**Зміцер Панкавец**

# «Калі б мяне паслухаліся, жылі б добра»

Віктар Цярэшчанка ў чацвёрты раз ідзе на выбары.


Сяргей Гудзілін

У ініцыятыўную групу эканаміста Віктара Цярэшчанкі ўвайшлі 946 чалавек. Ягонае імя знаёмае выбарцам па прэзідэнцкай кампаніі 2010 года. Тады кандыдат быў адзіным, хто не крытыкаваў кіраўніка дзяржавы. Сярод апанентаў Лукашэнкі толькі Цярэшчанку не арыштавалі ці не затрымалі ў ноч пасля Плошчы. Ён спрабаваў балатавацца і ў 1994, і ў 2001 гадах, але тады не сабраў патрэбныя подпісы.

Цярэшчанку 65 гадоў, ён паходзіць з Краснапольскага раёна. Быў дэпутатам Вярхоўнага Савета XIII склікання, ачольваў Беларускую народную партыю. Цяпер прадстаўляецца як старшыня рады Асацыяцыі малога і сярэдняга прадпрымальніцтва.

«Калі б мяне паслухаліся ў 2010 годзе, мы б жылі добра і не адбылася б дэвальвацыя, пра што я не раз папярэджваў», — тлумачыць Цярэшчанка. Падчас папярэдняй выбарчай кампаніі ён запомніўся тым, што прапанаваў арыгінальную эканамічную рэформу — прыраўняць адзін беларускі рубель да аднаго даляра.

Цяпер у праграме такіх словаў няма, ідэя сфармуляваная паіншаму: «назапашванне ў краіне чужой валюты занадта дорага абыходзіцца для эканомікі». «Любая арганізацыя з такой дынамікай баланса [як Нацбанк — **«НН»**] — патэнцыйны банкрут, які патрабуе неадкладных мер для аздараўлення. У такіх умовах падтрыманне курса валюты аказваецца магчымым толькі за кошт стварэння найвастрэйшага дэфіцыту нацыянальных грошай», — мяркуе кандыдат.

Іншая праблема эканомікі, на яго думку, датычыцца няправільнай падатковай сістэмы. Цярэшчанка прапануе браць падатак на дададную вартасць з атрыманага прыбытку, а не адразу з сыравіны.

Трэцюю прычыну слабой эканомікі кандыдат бачыць у адсутнасці матывацыі работнікаў пры кантрактнай сістэме.

Цярэшчанка кажа, што яго ная мэта — стабілізацыя валюты і эканомікі. Эканаміст нязгодны, што адносіны з Расіяй мусяць быць прыярытэтнымі. Маўляў, трэба аднолькава сябраваць з іншымі краінамі, у тым ліку з Еўропай.

Цярэшчанка падкрэслівае, што ён ніякі не спарынг-партнёр Лукашэнкі, бо не можа ўжо знайсці сабе 5 гадоў працу.

**Ягор Марціновіч**


Сяргей Гудзілін

# Барсіка не зарэгістравалі

Журналіст недзяржаўнага інфармацыйнага агенцтва БелаПАН Васіль Сямашка 17 ліпеня прынёс да Цэнтрвыбаркама свайго ката Барсіка. Ён паспрабаваў зарэгістраваць жывёлінку ў якасці кандыдата ў прэзідэнты. Пры гэтым Васіль сам быў адзеты ў шапку з вушамі ката.

Сямашка адзначыў, што Барсік яшчэ ў 2010 годзе падпісваў мемарандум з Уладзімірам Някляевым. Паколькі Някляеў гэтым разам вырашыў не балатавацца ў прэзідэнты, то прыйшла чарга Барсіка.

У ЦВК з катом Сямашку не пусцілі. Ды і сама жывёлінка не надта гэтага хацела, вырываючыся з рук гаспадара.

«Гэта адзіны з кандыдатаў, які не гаворыць усякага глупства. Заняты справай — ловіць мышэй. Яго ўтрыманне абыходзіцца значна танней, чым дзейнага прэзідэнта. На фоне астатніх кандыдатаў у прэзідэнты глядзіцца рэспектабельна і прыгожа. Прыкладаць будзем вусы і хвост», — сказаў з іроніяй Сямашка.

У ЦВК прымаць дакументы на рэгістрацыю Барсік адмовіліся.

ЗП

# Вечны кандыдат

**Лідар Ліберальна-дэмакратычнай партыі Беларусі (ЛДПБ) Сяргей Гайдукевіч у чацвёрты раз збіраецца ўдзельнічаць у прэзідэнцкай гонцы. Хто ж ён такі? «Наша Ніва» расказвае гісторыю жыцця палітыка, якая дазваляе скласці ўяўленне пра ягоную асобу.**



Сяргей Гайдукевіч кіруе партыяй з 1995 года.

TUT.BY

Ранейшыя спробы пазмагацца за другое месца на выбарах плёну не давалі. На перамогу палітык не прэтэндаваў ніколі, Лідзія Ярмошына давала яму 2—3% галасоў.

«Няма ў вас іншых кандыдатаў, я мацнейшы за іх усіх», — задаецца Гайдукевіч. Калі прамовіць гэтую мантру сто разоў, можа, паверыш у яе сам?

Гайдукевіч — «няўлоўны Джо» беларускай палітыкі. Яго і ягоную партыю мала хто ўспрымае ўсур'ёз. Місія палітыка — прадухіліць магчымы байкот і стаць спарынг-партнёрам Аляксандра Лукашэнкі. Кіраўніка дзяржавы Гайдукевіч публічна не крытыкуе.

### Стартавы капітал

З'яўленне Гайдукевіча ў вялікай палітыцы многія звязваюць з асобай ягонай маці. Спадарыня Галіна была топчыноўніцай у часы БССР — узначальвала Мінскае абласное аддзяленне Дзяржбанка СССР, а ў 1990-я кансультавала Нацбанк. Бацька Васіль быў вайскоўцам, і спачатку сын пайшоў па ягоным шляху.

Сяргей скончыў Мінскае вышэйшае інжынернае зенітна-ракетнае вучылішча і на 15 гадоў аказаўся ў войску. Некаторы час, у 1980-я, яму давялося працаваць у Іраку — гэтыя сувязі яму яшчэ спатрэбяцца падчас палітычнай кар'еры.

У 1991 годзе Гайдукевіч уладкаваўся ва ўпраўленне нацыянальнай бяспекі Дзяржсакратарыята, а праз год узначаліў настворанаы саўмінаўскі камітэт па сацыяльнай абароне сілавікоў.

Тады ж палітык «здолеў аб'яднаць 28 палітычных партый і грамадскіх рухаў у беспрэцэдэнтны па моцы і ўплыве палітычны блок «Народны рух Беларусі» (цытата з сайта ЛДПБ). Гэта было аб'яднанне рэакцыянераў.

Былы дэпутат Вярхоўнага савета Сяргей Навумчык узгадвае, што рух спрабаваў арганізаваць рэферэндум аб статусе расійскай мовы як дзяржаўнай. Гайдукевіч адмаўляе гэта.

### Будні працы ЛДПБ

Ад пачатку 1990-х у Расіі актыўнічала Ліберальна-дэмакратычная партыя папуліста Уладзіміра Жырыноўскага. Сваё прадстаўніцтва яна мела і ў Беларусі. У 1994 годзе гэтую прарасійскую сілу было вырашана рэгістраваць як партыю. На чале арганізацыі паўстаў заатэхнік, майстар спорту па каратэ Васіль Крывенка. Гайдукевіч быў ягоным намеснікам, аднак неўзабаве перахапіў лідарства.



TUT.BY

Алег Гайдукевіч за стырном свайго ўседарожніка.

## «У нас амаль няма партыйцаў, якія б не сядзелі»

Што ўяўляла сабой ЛДПБ сярэдзіны 1990-х? «12% членаў партыі — былыя супрацоўнікі КДБ, больш за 20% — міліцыі», — цытавала Гайдукевіча газета «Свабода». Таксама ў складзе партыі была вялікая колькасць казакоў на чале са сваім атаманам, актыўна прымалі «ліберал-дэмакраты» ў свае шэрагі і «афганцаў».

Сябры ЛДПБ займаліся аховай гандлёвага дома «Ждановічы» і часта траплялі ў крымінальныя гісторыі. Газета «Імя» адзначала, што намеснік Гайдукевіча Валянцін Карэтнікаў быў асуджаны за вымагальніцтва і незаконнае захоўванне зброі.

Ужо ў канцы 2000-х пасадзілі іншага намесніка старшыні партыі, Уладзіміра Карунаса. Яго затрымалі пры спробе атрыманя хабару ў памеры $9 тысяч і асудзілі на 5 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці. «У нас амаль няма партыйцаў, якія б не сядзелі», — тлумачыў Гайдукевіч.

ЛДПБ запомнілася актыўным супрацоўніцтвам з Іракам. Партыйная дэлегацыя за часамі Садама Хусэйна неаднаразова лётала ў Багдад. Якія бізнэс-інтарэсы меў Гайдукевіч на Блізкім Усходзе? Невядома. Калі «Народная воля» напісала, што Гайдукевіч мае перад іракцамі доўг памерам $1 мільён, той падаў у суд на газету і выйграў справу.

### Сямейная драма

А што з асабістым жыццём?

Сяргей Гайдукевіч першы раз пабраўся шлюбам у 1975 годзе. Яму быў 21 год, жонцы Алене — усяго 17. Неўзабаве ў сям'і нарадзіўся сын Алег. Цяпер ён першы намеснік у бацькавай партыі.

А вось другога сына, Васіля, бацька не бачыў ужо 25 гадоў. Як так выйшла?

Сям'я Гайдукевічаў развалілася ў 1989 годзе. Старэйшага сына пакінулі з бацькам, малодшага — з маці.

Па прагараме аздараўлення чарнобыльцаў Васіль трапіў у Германію. На наступны год немец, які прыняў хлопчыка, аформіў гасцявую візу яшчэ і ягонай маці.

Алена Гайдукевіч прыехала ў Германію, знайшла там каханне і выйшла замуж. Новы муж узяў на выхаванне і Васіля.

Палітык кажа, што спрабаваў змагацца за сына. Зрэшты, на выніковы суд ён не прыйшоў, і ў ягоную адсутнасць маці дазволілі вывезці хлопчыка.

«Маладосць у галаве іграла, ёй нехта спадабаўся... Я ж не супраць. Значыцца, не лёс», — каментуе Гайдукевіч. Ён кажа, што спрабаваў дабіцца дазволу на сустрэчы з сынам. «Але яна схавала ўсе адрасы, — кажа ён пра былую жонку. — Можаце ўявіць, каб без дазволу бацькі вывезлі — і ўсё, з канцамі?»

А Гайдукевіч пабраўся шлюбам другі раз. Ягоная жонка Ала — з Расіі.

«Прыязджаеш на цягніку з Мінска, потым на Ленінградскі вакзал. Да Цверы на электрычцы ехаць 3,5 гадзіны. А яна з мінскім цягніком не супадае...» — расказваў Гайдукевіч пра сваё каханне.

У Алы падрастала дачка Ганна. Цяпер Ганна разам з дачкой жыве ў Аўстрыі, маюць тамтэйшае грамадзянства. Скандальны сайт «Вікілікс» узгадваў яе імя ў сваім расследаванні. Маўляў, Ганна магла адмываць грошы ад гандлю зброяй.

Гайдукевіч адкідвае ўсе абвінавачанні: «Гэта ўсё выдуманая гісторыя. У Аўстрыі моцныя заканадаўства і падатковая служба. Ніякіх парушэнняў у мяне не было. І ўвогуле гэтага нічога не было. Гэта просты піяр».

### Сын-намеснік

Старэйшы сын палітыка, Алег, пайшоў працаваць у міліцыю. У 30-гадовым веку ён узначаліў Партызанскае РУУС Мінска, пасля быў пераведзены на такую ж пасаду ў Фрунзенскае РУУС.

Кіраўніком раённай міліцыі Алег Гайдукевіч быў і падчас разгону «маўклівых акцый апладысментаў» у 2011 годзе. Калі людзі ў цывільным цягнулі аўтара гэтых радкоў у аўтобус без нумароў, Алег Гайдукевіч па рацыі загадаў везці затрыманых журналістаў у аддзяленне. «Журналісты? Нічога не ведаю», — рабіў ён здзіўлены выгляд праз пару хвілін.

Сям'я Алега Гайдукевіча — жонка Марыя Валянцінаўна (дзявочае прозвішча — Шухно) і дзве дачкі, Лізавета і Ганна. Валянцін Шухно быў старшынёй Дзяржаўнага камітэта па каштоўных паперах Беларусі. Супадзенне ці не?

### Легкавікі і цягачы

Ад пачатку 1990-х Гайдукевіч атрымлівае вайсковую пенсію, у канцы 2000-х дадалася яшчэ і дэпутацкая (быў дэпутатам лукашэнкаўскай палаты прадстаўнікоў). У што палітык укладае грошы?

«Сёння ў Гайдукевіча толькі адна-адзіная машына, і члены маёй сям'і не карыстаюцца ні «Лексусам», ні «БМВ»! У мяне ёсць «Нісан-Максіма» 1998 года выпуску, якім карыстаецца ўся мая сям'я разам са мной. Больш у мяне няма машын!» — расказваў Сяргей Гайдукевіч у 2003 годзе.

Іронія лёсу, але праз два гады ў ягонай дэкларацыі з'явіліся якраз тыя маркі, якіх ён выракся: «БМВ 730» і «Лексус GS-300». «Калі стаў дэпутатам, я даведаўся, што ўсе яны бяруць крэдыт. Я так «Лексус» купіў», — тлумачыў Гайдукевіч. Апроч іх, ва ўласнасці ў палітыка былі два цягачы МАЗ.

## Малодшага сына Гайдукевіч не бачыў ужо 25 гадоў

А вось ягоны сын Алег катаецца на ўседарожніку «Таёта Секвоя» з рухавіком 5,7 л за $45 тысяч.

Жыве кандыдат у прэзідэнты ў катэджы ў Сёмкаве. Калі Гайдукевіч пачаў выдаваць партыйную газету (выйшла толькі два нумары), юрыдычны адрас рэдакцыі быў зарэгістраваны ў яго дома.

Актуальная інфармацыя аб дабрабыце сям'і Гайдукевічаў будзе апублікаваная, калі ён збярэ патрэбныя 100 тысяч подпісаў.

**Ягор Марціновіч**

---

**Сяргей Гайдукевіч**

Нар. 8 верасня 1954 у Мінску. Скончыў Мінскае вышэйшае інжынернае зенітна-ракетнае вучылішча Войскаў супрацьпаветранай абароны (1976), Вайсковую камандную акадэмію войскаў супрацьпаветранай абароны (1991), юрыдычны факультэт Маскоўскага камерцыйнага інстытута (1997).

У 1976—1991 служыў ва Узброеных сілах СССР, у тым ліку ў складзе групы вайсковых спецыялістаў у Іраку (1982—1983). У 1991—1992 — вядучы спецыяліст ва Упраўленні нацыянальнай бяспекі Дзяржаўнага сакратарыята, у 1992—1994 — старшыня камітэта па сацыяльнай абароне сілавікоў.

Ад 1995 — кіраўнік Ліберальна-дэмакратычнай партыі Беларусі. Кандыдат у прэзідэнты (2001, 2006). У 2010 зняў кандыдатуру падчас збору подпісаў. Дэпутат палаты прадстаўнікоў (2004—2008).

Жанаты, мае дваіх сыноў і дачку.

---

**Паэт**

У 2013 годзе Сяргей Гайдукевіч выдаў кнігу вершаў «Маё жыццё — Беларусь». Кніга выйшла накладам тысяча асобнікаў. Вось адзін з вершаў палітыка:

**«Врагам моего любимого поэта»**
Ты на Есенина не капай.
Не дуракам о нем судить,
А ты своею грязной лапой
Его так хочешь загрязнить!

Не ртом твоим гнусавить строки,
Которых ты и не поймешь,
И не кричи, не делай вздохи!
…Не своей смертью умрешь!

Ты глуп! И тупостью своей,
Постигнуть смысла ты не сможешь!
Что был — талантище — Сергей!
А ты! Ублюдок! Что ты можешь?!

# Палова беларусаў атрымлівае на рукі менш за $315

Сярэдні заробак знаходзіцца на тым жа ўзроўні, што і **перад папярэднімі выбарамі**.

«Да 2015 года мы павінны наблізіць памеры заробку да тысячы даляраў у эквіваленце», — абяцаў Аляксандр Лукашэнка перад прэзідэнцкімі выбарамі-2010.

Рэальнасць іншая. Паводле падлікаў Белстата, сярэдні заробак у маі 2015 года склаў 6,69 мільёна рублёў. Гэта $467 у эквіваленце. Прыкладна столькі ж было ў перадвыбарным 2010 годзе.

Але гэта заробак «бруднымі», да таго ж падобны на сярэднюю тэмпературу па бальніцы.

Белстат раз на паўгода публікуе іншую лічбу — медыянны заробак. Калі пашыхтаваць усіх беларускіх работнікаў у даўжэзны ланцуг, адсарціраваўшы па велічыні заробку, у цэнтры апынецца той, хто зарабіў 5,23 мільёна рублёў ($365).

Такім чынам, палова беларусаў зарабляе больш за гэтую суму, палова — менш. На рукі «медыянны» работнік атрымаў у маі $314.

**Ягор Марціновіч**

**Колькі зараблялі беларусы ў маі?**

да 2 мільёнаў — 2,7%
ад 2 да 3 мільёнаў — 13,6%
ад 3 да 4 мільёнаў — 15,2%
ад 4 да 5 мільёнаў — 15,2%
ад 5 да 6 мільёнаў — 13,9%
ад 6 да 8 мільёнаў — 19,6%
ад 8 да 10 мільёнаў — 9,7%
ад 10 да 20 мільёнаў — 9%
ад 20 мільёнаў і вышэй — 1,1%

Менш за беларусаў у Еўропе зарабляюць толькі ўкраінцы і малдаване. Прыкладна столькі ж плацяць у балканскіх краінах — Албаніі, Македоніі, Балгарыі.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# Як развальваецца беларускае машынабудаванне

**Вытворчасць скарачаецца** імклівымі тэмпамі.

Белстат апублікаваў зборнік, у якім падсумаваныя вынікі дзейнасці прамысловых прадпрыемстваў за 2014 год.

Асабліва заўважна крызіс адбіўся на машынабудаванні. Аб'ём вытворчасці ў гэтай галіне летась скараціўся на 20%. Рэнтабельнасць продажаў тым часам апусцілася з 10,1% да 5,9%.

Напрыклад, возьмем «пад'ёмна-транспартнае абсталяванне». Летась было выраблена ўсяго 5 вежавых кранаў. Для параўнання, у 2013 зрабілі 20 штук, а ў 2010 — 152. А вось вытворчасць ліфтаў з кожным годам набірае абароты.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Сельскагаспадарчыя трактары — адзін з брэндаў Беларусі — таксама не ў фаворы. Апошнія тры гады вытворчасць стабільна змяншаецца: 71 тысяча — 63 тысячы — 52 тысячы.

Выпуск амаль усіх відаў машын і абсталявання для сельскай і лясной гаспадаркі згортваецца тымі ж тэмпамі — на 20—25%. Ёсць і антырэкардсмены. Вытворчасць кормаўборачных камбайнаў абвалілася ў пяць разоў, сенаўборачных машын — у тры разы.

Станкі для апрацоўкі металаў — мінус 38%, для апрацоўкі дрэва — мінус 31%.

З машынамі для здабычы карысных выкапняў яшчэ горш. Вытворчасць гусенічных трактароў скарацілася ў 3 разы, бульдозераў — у 5 разоў, грэйдараў — у 7,5 раза. І нават самазвалы (для бездарожжа і кар'ерныя), якія раней давалі шматмільённыя прыбыткі, выпускаюцца ўсё радзей. Пазалетась было выпушчана 6592 машыны, летась — 4196.

Грузавых аўтамабіляў (перадусім гэта прадукцыя МАЗа) сталі выпускаць на 50% менш.

Падобная сітуацыя з бытавой тэхнікай. Выключэнне толькі адно — вытворчасць мікрахвалёвак павялічылася на 15%. А вось астатняе... Пральных машын вырабілі ўдвая менш, мясарубак — у 2,5 раза, тэлевізараў — амаль у тры разы. І нават халадзільнікаў стала на 18% менш.

Нарэшце, параўнаем цяперашнюю сітуацыю з выпускам электрапрасаў з той, што была дзесяць гадоў таму. Тады выраблялася 179 тысяч, летась — 3 тысячы.

**ЯМ**

# Гарэлка не ў модзе

Продажы алкагольных напояў **упалі на 30%**.

Паводле дадзеных Белстата, за 2014 год у Беларусі было прададзена 11,7 мільёна дэкалітраў гарэлкі і лікёра-гарэлкавых вырабаў.

Лічба вялікая, аднак у 2012 годзе яна была значна большай — 16,6 мільёна дэкалітраў. За два гады спажыванне гарэлкі зменшылася на 29,4%.

Спажыванне іншых алкагольных напояў таксама скарацілася, але не так моцна — у сярэднім на 17%.

Такім чынам, летась кожны беларус у сярэднім спажыў 10,4 літра чыстага спірту. Некалькі гадоў таму лічба перавышала 13 літраў.

**ЯМ**

Падобная тэндэнцыя назіраецца і на тытунёвым рынку. У 2014 годзе ў Беларусі было прададзена 24 мільярды цыгарэт, два гады таму — 27,6 мільярда цыгарэт. Продажы скараціліся на 13%.

# 60 кіламетраў — не адлегласць

Мінчукі раскупляюць зямельныя **надзелы ў вобласці**.

Зямельныя надзелы ў Мінскай вобласці карыстаюцца попытам сярод жыхароў сталіцы. Як распавёў начальнік землеўпарадкавальнай службы Мінскага аблвыканкама Віктар Маневіч, продаж зямельных надзелаў праз таргі — адзін з самых эфектыўных спосабаў размеркавання зямельных рэсурсаў сярод насельніцтва.

Як адзначыў старшыня Стаўбцоўскага раённага Савета дэпутатаў Аркадзь Казякоўскі, да іх прыязджае шмат мінчан. Як паказвае практыка, адзін з шасці адважваецца на куплю. Адлегласць у 60 км нікога не палохае. Тым больш што, паводле ацэнак спецыялістаў, зямля будзе толькі даражэць. Пры гэтым калі ў Мінскім раёне цэны зашкальваюць (каля Заслаўскага вадасховішча 10—15 сотак каштуюць ад некалькіх соцень мільёнаў рублёў да мільярда), то 25 сотак у вёсцы ў Стаўбцоўскім раёне выстаўляюцца на аўкцыён за 14 мільёнаў.

«Інфармацыя аб правядзенні аўкцыёнаў размешчана на сайтах аблвыканкама і райвыканкамаў», — кажа Маневіч.

Дарэчы, будаўніцтва жылога дома павінна быць завершана на працягу трох гадоў з дня пакупкі надзела. Аднак гэты тэрмін можа быць падоўжаны, дапускаецца закансерваваць незавершанае будаўніцтва жылога дома.

Усяго на Міншчыне больш за 8 тысяч свабодных зямельных участкаў.

**Надзея Ільяшук, «Мінск-Навіны»**



## Сцісла

### Расія дасць $760 мільёнаў

Урад Расіі ўхваліў пагадненне аб выдачы Беларусі дзяржаўнага крэдыту ў рублях на суму, эквівалентную $760 мільёнам. Грошы даюцца на абслугоўванне і пагашэнне ранейшых крэдытаў. Цяпер Аляксандр Лукашэнка просіць яшчэ $3 мільярды.

### З рублёвых дэпазітаў — у валютныя

У чэрвені ўпершыню з пачатку года зафіксавана змяншэнне аб'ёму рублёвых дэпазітаў. Пакуль што на рахунках ляжыць 34,3 трыльёна рублёў. Адначасова адбыўся рост укладаў у валюце — аб'ём вырас да $7,7 мільярда. Пры гэтым стаўка па валютных дэпазітах знізілася да 5,5% гадавых.

### Да 2017 года смеццеправоды заварацць

У сталіцы ўжо закансервавана каля 300 смеццеправодаў у шматпавярховіках. Для гэтага патрэбны дазвол жыхароў, і ўсё большая колькасць людзей ставяцца да ініцыятывы станоўча. Кансервацыя смеццеправодаў дапаможа палепшыць гігіенічныя паказчыкі ў пад'ездах і дапаможа асобнаму збору адкідаў.

**ЯМ**

# Збіты казакамі студэнт пінскага каледжа: Яны ўтрох мяне білі

Прычынай бойкі стала тое, што **п'яныя расіяне чапляліся да яго дзяўчыны**, а ён за яе заступіўся.

Студэнт Пінскага аграрнага тэхналагічнага каледжа, якога збілі ўдзельнікі коннага паходу Масква—Берлін, знаходзіцца дома ў Ганцавічах. Зміцер Гардзей прызнаецца, што моцных пабояў не мае, «сур'ёзнага нічога і не было, і ўжо ўсё амаль прайшло, хіба толькі сківаца крыху баліць».

Хлопец не вельмі хоча расказваць падрабязнасці сутычкі ў інтэрнаце каледжа. Вядома толькі, што п'яныя расіяне чапляліся да яго дзяўчыны, а Зміцер заступіўся.

«Яны прыйшлі п'яныя разбірацца са мной наконт дзяўчыны і ўтраіх мяне збілі, — дадае хлопец. — Увогуле, іх было чацвёра, і адзін з іх у выніку расцягнуў бойку. Ніякай міліцыі там не было».

Падчас бойкі расіяне пашкодзілі лядоўню, уваходныя дзверы і разбілі шкляную вазу ў пакоі пацярпелага. Зміцер пацвярджае, што прычынай бойкі стала яго дзяўчына Вераніка, якая таксама вучыцца ў каледжы і жыве ў гэтым інтэрнаце. Па словах хлопца, п'яныя казакі чапляліся



да дзяўчыны, а Зміцер за яе заступіўся.

Сама Вераніка прызналася, што «падпісала ў следчых абавязальніцтва пра неразгалошванне» і не мае права нешта расказваць.

Беларуская міліцыя затрымала трох удзельнікаў бойкі. Двое сутак расіяне правялі ў ізалятары часовага ўтрымання Пінскага ГАУС у статусе падазраваных, а на трэція (10 ліпеня) ім усім выставілі афіцыйнае абвінавачванне ў злосным хуліганстве. Пінская міжраённая пракуратура санкцыянавала іх арышт тэрмінам на два месяцы на перыяд папярэдняга расследавання.

Па словах пракурора Брэстчыны Івана Наскевіча, у рашэнні праваахоўнікаў не трэба шукаць палітычнага кантэксту. Маўляў, закон для ўсіх аднолькавы:

«Нашы сябры-расіяне павялі сябе неадэкватна. Самае крыўднае ў гэтай сітуацыі тое, што мы заўсёды адэкватна на кожны факт правапарушэння глядзім: калі б яны першапачаткова прынеслі прабачэнні, прынялі б захады па загладжванні нанесенай шкоды, то і мы зрабілі б па-братэрску. Але, на жаль, такіх крокаў насустрач зроблена не было».

Пінскія ўлады ўрачыста, з хлебам-соллю, ускладненем вянкоў ды паказальнымі выступамі сустрэлі ўдзельнікаў коннага паходу Масква — Берлін. Казакам бясплатна выдзелілі для пражывання цэлы паверх у інтэрнаце Пінскага аграрнага тэхналагічнага каледжа. Супрацоўнікі навучальнай установы распавялі, што займаўся ўсім аддзел ідэалогіі гарвыканкама, а дакладней, загадчык сектарам ідэалагічнай працы і па справах моладзі Юры Бушык. Што праўда, спадар Бушык робіць выгляд, што ўвогуле ніякага дачынення да сустрэчы гасцей з Расіі не мае.

«Гэта не ведамасны інтэрнат гарвыканкама, таму мы не маглі туды нікога засяліць, — адразае чыноўнік і, не даючы ўставіць слова, «збягае». — Але я ўстрымаюся ад каментарыяў, усяго найлепшага, да пабачэння!»

Цікава, што начальнік аддзела ідэалогіі таксама нічога не ведае, бо была ў адпачынку і толькі нядаўна вярнулася. Ідэолаг самога каледжа, Святлана Пракаповіч, якая дзяжурыла ў гэтую ноч у інтэрнаце і была сведкай бойкі, адмаўляецца размаўляць. Маўляў, без дазволу дырэктара нельга. Дырэктар жа пасля секунднай паўзы кажа, што знаходзіцца ў адпачынку, і перанакіроўвае ў гарвыканкам. Пагадзіцеся, не зусім звычайная таямнічасць для такой простай справы, як хуліганства!

Дарэчы, паход казакоў працягнуўся не толькі без затрыманых удзельнікаў, але і без... коней. Брэст стаў канчатковым пунктам маршруту коннага паходу ў тым варыянце, як ён быў задуманы. Прайшоўшы ў конным страі ад Масквы да Брэста 1400 км, далей экспедыцыя адправіцца ў скарочаным складзе, а менавіта — без жывёл. Па словах арганізатараў, ім прыйшлося адмовіцца ад першапачатковага фармату праз патрабаванні польскага ветэрынарнага нагляду.

Паводле папярэдняй інфармацыі, у ноч на 16 ліпеня ўдзельнікі паходу пераселі на аўтобусе беларуска-польскую мяжу.

**Ілля Маліноўскі, «Еўрарадыё»**

## Прапагандыст Дзмітрый Кісялёў выдаліў створаны ў фэйсбуку акаўнт пасля хвалі праклёнаў

Акаўнт расійскага прапагандыста Дзмітрыя Кісялёва, які быў адкрыты ў фэйсбуку ў пятніцу, 17 ліпеня, праіснаваў толькі некалькі гадзін. Карыстальнікі выказалі Кісялёву ўсё, што пра яго думаюць. Ужо на наступны дзень акаўнт быў закрыты па невядомай прычыне.

**ЯМ**

Sergei Suptelya Желаю вам долголетия и крепкого здоровья, которые вам понадобятся когда вы предстанете перед справедливым судом за все то дерьмо , которое вы творите с нашими братьями
9 ч · Нравится · 9

Богдан Львов >Думаю, такого пруфа будет вполне достаточно
Дмитрий, а это лично вы ведете эту страницу, либо Вам помога
словечко-то сленговое для рунета.
9 ч · Нравится · 1

Юрий Пузанов Желаю вам, Евгений, гореть в аду. Желательно
жизни.
9 ч · Нравится · 14

Ваня Ерохин Дима, приезжай в гости на Урал. Я тебя заживо
скормлю.
9 ч · Нравится · 14

Восточная Сладость Сейчас ты еще не популярен. Тебя знают
мартышки из рф. А вот прославишься ты когда видео с твоей
наберет миллион просмотров за час. Побыстрее бы.
9 ч · Нравится · 13



## Ізраіль расказаў пра «Дзікі» танк пасля 30 гадоў сакрэтнасці

«30 гадоў мы захоўвалі цішыню вакол адной з нашых найбольш эфектыўных і прасунутых вайсковых тэхналогій. На мінулым тыдні мы знялі пячатку сакрэтнасці і адкрылі танк Pereh (літаральна — «Дзікі») грамадству. Узброеная супрацьтанкавымі ракетамі, гэтая машына стала новай эпохай ва ўмовах гарадскога бою», — піша афіцыйны фэйсбук Сіл абароны Ізраіля.

Баявая машына была распрацаваная ў 1980-я гады на шасі амерыканскага танка *M60 Patton*, але мела іншую павялічаную вежу толькі з макетам гарматы. Замест галоўнага ўзбраення на ім паставілі ракетныя комплексы Tamuz (на міжнародным рынку — *Spike NLOS*), якія могуць выкарыстоўваць таксама і супрацьпяхотныя боепрыпасы.



Гэтыя комплексы не патрабуюць бачыць праціўніка і фактычна з'яўляюцца кіраванымі высокадакладнымі тактычнымі ракетамі з дальнасцю бою да 25 км. Вялікія сталёвыя скрыні за і над вежай танка — якраз змяшчаюць 12 такіх 70-кілаграмовых ракет.

Такім чынам, групы *Pereh* фактычна ўяўляюць з сябе батарэі высокадакладных тактычных ракетных комплексаў, здольных падтрымліваць свае танкі і пяхоту па-за лініяй далягляду ці пры патрэбе наўпрост на полі бою.

**Аляксандр Гелагаеў**

## У Вінніцы скралі «Лексус» з беларускім нумарамі

Здарэнне адбылося 20 ліпеня ўвечары. Машыну скралі са стаянкі на вуліцы Кіеўскай, што насупраць аўтавакзала, пра гэта паведамляюць вінніцкія рэгіянальныя сайты.

Зламыснікі скралі «Лексус RX450» 2009 года выпуску, чорнага колеру. Аўтамабіль зарэгістраваны ў Гомельскай вобласці. Цяпер ДАІ шукае інфармацыю аб скрадзеным аўтамабілі.

**ЗП**

## Дармаедам адмовяць у грошах на пахаванне

Цяпер сваякам памерлых даецца ад дзяржавы **6.574.900 рублёў**.

Пастанова Саўміна №585 «Аб выплаце дапамогі і кампенсацыі выдаткаў на пахаванне», якая ўступіла ў сілу з 12 ліпеня, вызначае катэгорыі грамадзян, якім могуць быць выплачаныя гэтак званыя «пахавальныя». Дакумент быў апублікаваны ў пятніцу на нацыянальным прававым інтэрнэт-партале *pravo.by*.

Не зарэгістраваныя ў цэнтры занятасці беспрацоўныя і іх дзеці на выплату разлічваць не могуць. Не дадуць грошы на пахаванне і тым, хто ўносіў абавязковыя страхавыя ўзносы ў бюджэт менш за 10 гадоў.

Згодна з дакументам, за кошт бюджэту пакрыюць выдаткі на пахаванне толькі пэўным катэгорыям грамадзян. Разлічваць на «пахавальныя» могуць:
— грамадзяне, на якіх на дату смерці распаўсюджвалася дзяржаўнае сацыяльнае страхаванне. Яны самі або нехта за іх павінен быў уносіць абавязковыя ўзносы ў бюджэт;
— грамадзяне, якія ўносілі абавязковыя страхавыя ўзносы ў бюджэт як мінімум 10 гадоў;
— пенсіянеры, якія атрымлівалі пенсію за кошт бюджэту;
— беспрацоўныя, якія афіцыйна зарэгістраваныя ў цэнтры занятасці;
— непаўналетнія дзеці вышэйпералічаных катэгорый беларусаў і студэнты ва ўзросце да 23 гадоў.

## У Казахстане прапануюць закрыць доступ да LifeNews

За **правакацыйны ролік** з Парашэнкам і «гімнам Казахстана».

Старшыня рады дырэктараў АТ «Нацыянальны цэнтр «Өрлеу» Мурат Абенаў выказаў сваё абурэнне відэаролікам, які апублікавала ў сацсетках расійскае выданне *LifeNews*.

Гаворка ідзе пра відэа з выступам прэзідэнта Украіны Пятра Парашэнкі, на які наклалі «гімн Казахстана» са скандальнага фільма «Борат».

На думку Абенава, дзяржорганы абавязаны закрыць доступ да *LifeNews* на тэрыторыі Казахстана.

«Запатрабаваць выдаліць абразлівае для Казахстана відэа і выбачыцца. Ёсць жа ў нас такое права. Трэба яшчэ прыцягнуць да адказнасці нашых чыноўнікаў, якія абавязаны маніторыць электронныя СМІ і ініцыяваць прынятыя мер. Афіцыйна прызнаць бяздзейнасцю, бачачы, як парушаюць наш закон», — адзначыў Абенаў.

*LifeNews* — прапагандысцкі крамлёўскі тэлеканал, які спецыялізуецца на асвятленні вайны на ўсходзе Украіны.

**ЗП**

# У Гродне знайшлі небяспечнага павука — «сваяка» тарантула



Жыхар Гродна Максім Гармаш, пачуўшы, што ў Беларусі былі знойдзеныя тарантулы, некалькі гадоў назіраў за павукамі ў горадзе і ваколіцах. Нядаўна ў раёне крэйдавых кар'ераў ён выявіў небяспечнага варонкавага павука сямейства *Agelenidae* і выращыў расказаць пра гэта карыстальнікам інтэрнэту.

Варонкавы павук — гэта «сваяк» тарантула. Ён агрэсіўны і атрутны, можа на працягу гадзіны бесперапынна пераследаваць ахвяру. Можа жыць усюды: у полі, у садзе, у горадзе. Яго ўкус можа выклікаць сур'ёзны некроз тканак, акрамя таго, у арганізм можа трапіць інфекцыя, як пры ўкусе кляшча.

Для здаровага дарослага чалавека ўкус павука не смяротны. Але сустрэцца з павуком можа і дзіця, і чалавек з алергіяй. Таму Максім раіць абыходзіць бокам своеасаблівыя варонкі з павуціння.

**Tut.by**

## Дзве школьніцы дайшлі пешшу з Мінска да Масквы

З сабой не мелі ні грошай, ні ежы, толькі «сэлфі-палку».

Больш за 700 кіламетраў дзяўчаты Глорыя і Ліза прайшлі за 23 дні. Бацькам давялося хлусіць, што ў Маскву паляцелі самалётам.

Дзяўчаты вырашылі выправіцца ў падарожжа пасля простага жарту падчас сустрэчы ў кавярні. З цягам часу яны сталі ўспрымаць жарт усё больш сур'ёзна: набылі намёт, спальнікі, партатыўныя зарадкі для тэлефонаў і энергетычныя батончыкі на выпадак, калі з ежай будзе зусім цяжка. Таксама з сабой яны мелі «сэлфі-палку». Грошай з сабой дзяўчаты не бралі — харчаваліся тым, чым пачастуюць добрыя людзі ў вёсках ці на запраўках.

Ліза і Глорыя паспяхова дайшлі да Масквы, хаця па дарозе давялося і пасварыцца. За дзень, кажуць яны, праходзілі да 60 кіламетраў. Толькі пад Маскоўскай кальцавой іх падабрала сяброўка. На Краснай плошчы іх ужо сустракалі фанаты.

Падчас падарожжа дзяўчаты вялі блог у *Instagram* і відэаблог на *Youtube* пад агульным загалоўкам «Дасягнуўшы дупы».

У Мінск Глорыя і Ліза збіраюцца вяртацца ўжо больш традыцыйным транспартам — стамілся. Абедзве супрацоўнічаюць з мадэльнымі агенцтвамі і спадзяюцца падпісаць кантракты ў Еўропе ці Азіі.

**Аляксандр Арсёнаў**






## Джоні Дэп купіў выспу ў Грэцыі за 4,2 млн еўра



Плошча выспы — 0,2 квадратнага кіламетра, паведамляюць інфармагенцтвы са спасылкай на прадстаўніка лонданскай кампаніі па продажы нерухомасці *Proto Organization Ltd*.

Бязлюдная выспа Страгіла знаходзіцца ў Эгейскім моры. Галівудскі акцёр Джоні Дэп збіраецца наведаць яе ў канцы ліпеня.

Кампанія *Proto Organization Ltd* раней выступала пасярэднікам пры куплі выспы ў Іанічным моры для Брэда Піта і Анджаліны Джалі.

**Сямён Цыбульскі**

## Адзіная польская ліцэістка, якая здавала выпускны экзамен па лемкаўскай мове

Ганна Шмайда адзіная на ўсю Польшчу здавала экзамен па лемкаўскай мове. Лемкі — этнаграфічная група ўкраінцаў, што жыве ў Бяскідах. Паводле апошняга перапісу, іх 10,5 тысячы. Яны гавораць своеасаблівым дыялектам.

Большасць лемкаў пераехала ва Украіну ў 1945—1946. Продкаў Ганны, як і ўсю рэшту лемкаў, у 1947 годзе выселілі з гор на ўзбярэжжа Балтыкі, каб знішчыць сацыяльную базу ўкраінскага незалежніцкага падполля Украінскай паўстанцкай арміі. З часам лемкі атрымалі магчымасць вярнуцца, але вярнуліся не ўсе.



Экзаменацыйная камісія апранула на іспыт святочныя нацыянальныя строі. Сёлета пісьмовы экзамен па нацыянальнай мове тут здавала толькі адна выпускніца.

**Сяргей Гезгала**

**Фотафакт**




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Трывожная перамога**

Барысаўскі БАТЭ ў другім кваліфікацыйным раўндзе Лігі чэмпіёнаў атрымаў мінімальную перамогу над ірландскім «Дандалкам» — 2:1. Хаця перад гульнёй усе лічылі, што БАТЭ будзе безумоўным фаварытам супрацьстаяння. На фота: Аляксандр Карніцкі (злева) — аўтар першага гола барысаўцаў.

## Вавёрка напілася і разграміла бар у Англіі

Грызун нашкодзіў на 300 фунтаў стэрлінгаў.

Гісторыя здарылася ў пабе *Honeybourne Railway Club* у мястэчку Іўсгем пад Бірмінгемам (Англія), перадае BBC.

Ахоўнік думаў, што ў памяшканне ўварваўся нейкі злодзей: падлога была залітая півам і ўсыпаная шклом бітых бутэлек ды раскіданымі грашыма. Але раптоўна з каробкі чыпсаў вылезла п'яная вавёрка.

Падобна, што вавёрка забегла ў бар і адкруціла (выпадкова ці наўмысна) кран з півам. Мяркуючы па паводзінах вавёркі, яе павольных і няўпэўненых рухах, гэтае піва яна пакаштавала.

«Я ніколі не бачыў п'яную вавёрку раней, — кажа ахоўнік. — Яна была ўшчэнт п'яная і выглядала так сабе, трэба сказаць». Ахоўнік злавіў вавёрку сметніцай і выпусціў у акно.

**АА**

**Выпадак з жыцця**

## Ажэніцца — будзе дурань дурнем

Піша Святлана Калінкіна.



Расіяне прыехалі ў адпачынак у Беларусь, і амаль штодня пачалі ўсплываць гісторыі з «хатняй геапалітыкі». Ну вось, напрыклад:

— Прыбярыце, я гэта есці не буду, — заенчыла госця-масквічка, убачыўшы на стале цукеркі «Рашэн».

— А што здарылася? — спакойна пытаецца цётачка-беларуска (гэта ейны пляменнік прывёз сяброўку знаёміцца з раднёй). Да ведама: цётачка — інтэлігентны чалавек, адзін з самых вядомых беларускіх перакладчыкаў з іспанскай, партугальскай і г.д. моваў.

— Гэта ж цукеркі фірмы Парашэнкі. І ён проста сказаў, што сваімі цукеркамі атруціць усю Расію, — не сціхае госця.

— Каму сказаў? Няўжо табе сказаў? Ты сама чула?

— Ну-у-у, не мне, вядома, сказаў...

— Я так і думала: сказаў вашаму тэлевізару. Ты б менш тэлевізар глядзела, а больш кніжкі чытала. Гэта па-першае. А па-другое, не бойся, усё ж такі ты не ў Расіі, а ў Беларусі.

— Але ж Беларусь і Расія — гэта амаль адно і тое ж...

— Ну, калі пачалася такая размова, то я табе шчыра скажу. Лічы, што ты ў нас амаль пагасцявала, мы з табой амаль пазнаёміліся, а наш Вадзік з табой амаль ажаніўся. А калі ён увогуле ажэніцца, то ён нас вельмі расчаруе.

Пакуль, гледзячы на цябе, я думаю, што ён амаль дурань, а ажэніцца — будзе дурань дурнем.

Госця нават не зразумела, што яна зрабіла не так. Сышла ў слязах.

**Facebook.com**

## Віцебскі аблвыканкам выдаткуе 140 млн рублёў на мадэрнізацыю сайта

Тэндар на мадэрнізацыю сайта Віцебскага абласнога выканаўчага камітэта размясціла Галоўнае ўпраўленне ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі. Арыенціровачны кошт работ — 140 000 000 рублёў.

Тэрмін на распрацоўку і запуск новай версіі сайта даецца невялікі: згодна з умовамі тэндара, яна павінна быць гатовая да 5 кастрычніка 2015, г. зн. распрацоўшчык мусіць паспець да пачатку галасавання на выбарах прэзідэнта. Аплата работ па мадэрнізацыі будзе ажыццяўляцца са сродкаў абласнога бюджэту.

**«Народныя навіны Віцебска»**

**Прыватныя абвесткі**



Віншуем дарагіх сяброў Міколу Дземідзенку і Алесю Раманюк, а таксама маленькага Міхася з нараджэннем дачушкі і сястрычкі! Мы вельмі радыя, што вашая цудоўная сям'я паболела! Здароўя маме і малой!

**Вашы сябры-маладафронтаўцы**

# Дзе ў Беларусі ядуць найбольш каларыйна?



Белстат апублікаваў вынікі штогадовага даследавання, у якім высветліў, дзе ў Беларусі спажываюць найбольш каларыйную ежу. Улічвалася каларыйнасць харчавання, якое было спажыта членам сям'і за дзень.

Пяты год запар найсытней ядуць на Гродзеншчыне. Цікава, што з 2010 года кожны жыхар Беларусі стаў атрымліваць на 200—300 кілакалорый больш.

Якімі прадуктамі беларусы набіраюць свой рацыён? Найбольшая доля, 30% калорый, трапляе ў арганізм з хлеба і хлебапрадуктаў. Далей ідуць мяса (22%), малако (12%), алей і іншыя тлушчы (9%), кандытарскія вырабы (9%), бульба (6%), садавіна і ягады (4%), гародніна (3%), а таксама рыба (2%).

**ЯМ**

| Месца | Вобласць | Каларыйнасць |
|---|---|---|
| 1 | Гродзеншчына | 2747 |
| 2 | Міншчына | 2733 |
| 3 | Брэстчына | 2713 |
| 4 | Гомельшчына | 2647 |
| 5 | Віцебшчына | 2617 |
| 6 | Магілёўшчына | 2585 |
| 7 | Мінск | 2536 |

## Праз недахоп сну людзі пачалі бачыць у сябрах ворагаў

Важна не проста спаць, а **бачыць сны**.

Нейрабіёлагі Каліфарнійскага ўніверсітэта ў Бёрклі (ЗША) эксперыментальна вызначылі, што недахоп сну можа прывесці да няправільнай інтэрпрэтацыі чалавекам выразу твару іншага чалавека, пра што распавялі ў часопісе *Journal of Neuroscience*.

Пасля 24 гадзін без сну паддоследныя сталі бачыць варожыя выразы твараў на тых фота, дзе на самай справе дэманстраваліся нейтральныя ці добразычлівыя выразы твараў.

У эксперыменце ўзялі ўдзел 18 здаровых дарослых людзей. Ім паказалі 70 фота з рознымі выразамі твараў, рэакцыю на фота запісалі праз функцыянальную магнітна-рэзанансную тамаграфію і рэгістрацыю частаты сардэчных скарачэнняў. Падчас сну ў ходзе тэстаў запісвалася электраэнцэфалаграма.

Як высветлілася, ад недахопу сну ўзаемадзеянне структур мозгу, адказных за распазнаванне эмоцый, і вегетатыўнай ды нервовай сістэм збіваецца — чалавек бачыць пагрозу там, дзе яе няма. Пры чым важна не проста колькасць праспаных гадзін, а працягласць фазы хуткага сну (падчас якой, як сёння лічыцца, людзі бачаць сны), калі зніжаецца ўзровень гармонаў стрэсу.

**Аляксандр Арсёнаў**

## Праграміст стварыў сацсетку для беларускіх герояў

Пакуль **зарэгістраваліся** 32 героі.




24-гадовы праграміст Алег Хвядзьковіч стварыў сайт «Беларускія героі», піша *dev.by*.

На сайце *belarusianheroes.com* Адам Міцкевіч «зафрэндзіў» Мележа і Напалеона Орду, а Браніслаў Тарашкевіч — Ластоўскага і Геніюш. Яны рэгулярна публікуюць свае фота, на іх старонках можна пачытаць пра важныя падзеі з іх жыцця.

Праект некамерцыйны. Як расказвае Алег, ён з дзяцінства цікавіўся гісторыяй. Праграміст быў уражаны артыкулам «Камсамольскай праўды» пра рэпрэсіі 30-х гадоў — гісторыяй пра тое, як Цішка Гартны пасля допытаў скончыў жыццё самагубствам, і здымкамі Максіма Гарэцкага да і пасля катаванняў НКВД.

Найперш ён абраў для сайта тэму рэпрэсаваных беларусаў, але пазней дадаў пісьменнікаў, артыстаў, спартоўцаў і навукоўцаў, а таксама аздабленне «пад сацсетку». Сумарна на сёння набралася 32 героі з дэталёвымі старонкамі ў «сацсетцы».

Аўтар «Беларускіх герояў» распавядае пра адсутнасць дапамогі ад музеяў. Ён быў бы рады дапамозе неабыякавых па напаўненні сайта, па даданні на яго гістарычных і актуальных падзей — напрыклад, імпрэзаў, прысвечаных героям.

**АА**

## У Нідэрландах пакладуць дарогі з пластыку

Дарогі зробяць літаральна **са смеццем**.



Кампанія *VolkerWessels* пачне выпрабаванні новага тыпу дарожнага пакрыцця ў Ратэрдаме (Нідэрланды). Гарадскія ўлады выдзелілі ўчастак для тэстаў PlasticRoad, паведамляецца на афіцыйным сайце кампаніі.

*PlasticRoad* вытрывае экстрэмальныя тэмпературы — ад -40 да +80 градусаў Цэльсія. Участак пакрыцця лёгка замяняецца ў выпадку пашкоджання, пад ім (дакладней, проста ў ім) лёгка пракладаюцца лініі камунікацый, абслугоўвання амаль не трэба.

Пакуль распрацаваны ранні прататып — невядома, ці будзе ён прыдатны для аўтастрад з цяжкімі грузавікамі. Кампанія шукае партнёраў для рэалізацыі пілотнага праекта.

Пластыкавая дарога *VolkerWessels* на 100% складаецца з перапрацаваных матэрыялаў. Дарогі з перапрацаванага пластыку ўжо існуюць у Індыі, але там укладваюцца не блокамі, як *PlasticRoad*, а заліваюцца «палімерызаваным бітумам» — асфальтам з дадаткам пластыку.

**АА**

## Польскія фанаты ўчынілі пекла ў Сараеве пад прасербскія лозунгі

Фанаты футбольнага клуба «Лех» (Познань) адзначыліся падчас выезду ў сталіцу Босніі на матч сваёй каманды супраць ФК «Сараева» ў рамках другога кваліфікацыйнага раўнда Лігі чэмпіёнаў.

Каля 150 польскіх фанатаў прыбылі ў Сараева за суткі да матча. Амаль адразу ж група палякаў з шасці чалавек была атакаваная фанатамі ФК «Сараева». У выніку адзін польскі заўзятар трапіў у шпіталь.

Звесткі аб гэтым хутка трапілі да асноўнай групоўкі польскіх фанатаў, якія знаходзіліся ў адным з гатэляў на ўскраінах горада. Да іх таксама накіравалася вялікая групоўка баснякоў — трохі больш за сто чалавек. Групоўкі сустрэліся на вуліцах аднаго з глухіх раёнаў Сараева — Вагошча, сутычка доўжылася дзесяці 50 хвілін — пакуль не прыбыла паліцыя і не раздзяліла агрэсіўныя групоўкі фанатаў.

Па выніку ў шпіталі аказалася 11 баснякоў і 7 палякаў. Што цікава, падчас сваіх маршаў па вуліцы, а таксама непасрэдна на матчы польскія заўзятары скандавалі прасербскія і антыбаснійскія лозунгі.

**Зміцер Міцкевіч**

**Кіно**

## Магутная казюрка




Чалавек-мурашка
**Жанр:** фантастыка, баявік, камедыя
**Рэжысёр:** Пейтан Рыд
**У ролях:** Пол Рад, Майкл Дуглас, Эванжалін Лілі, Коры Стол, Боббі Канавале, Джудзі Грыг, Эбі Райдар Фортсан, Майкл Пенья
ЗША, 117 хв.
**Адзнака:** 8

Скот Лэнг — чалавек, які трапіў у турму пасля дзёрзкага крадзяжу. Высвятляецца, што апошнім часам за ім сачыў былы супергерой Хэнк Пім (ён жа Чалавек-мурашка). Выйшаўшы з турмы, Скот сустракае Хэнка, які хоча зрабіць з яго новага Чалавека-мурашку і прадухіліць небяспеку ў асобе мільянера Дарэна Кроса (Жоўты Шэршань), які захапіў кампанію, заснаваную Пімам. *PYM Tech* пад кіраўніцтвам Кроса спецыялізуецца на стварэнні салдатаў памерам з казюрку, і навуковец ужо блізкі да поспеху і гатовы прадаць сваё вынаходніцтва. Скот вырашае стаць новым супергероем, здольным памяншацца ў памерах, і здзейсніць крадзеж тэхналогіі, які выратуе ўвесь свет.

Рэжысёрам новай стужкі па сусвеце *Marvel* павінен быў стаць Эдгар Райт («Зомбі з імём Шон» (2004)), які з'яўляецца вялікім фанатам Чалавека-мурашкі і ў 2003-м прапанаваў *Marvel* зняць пра яго фільм. Ён быў блізкі да таго, каб прыступіць да здымак, аднак у 2014-м пакінуў праект праз творчыя непаразуменні паміж ім і студыяй *Marvel*. Рэжысёрскае крэсла дасталося Пейтану Рыду («Заўжды кажы «так» (2008)).

Здымкі фільма праходзілі ў Сан-Францыска, і многія вулічныя сцэны зняты ў гэтым горадзе. Пасля здымачная група перамясцілася ў комплекс «Пайнвуд Студыёс» ў Атланце, штат Джорджыя. Дэкарацыі дома доктара Хэнка Піма сталі першымі дэкарацыямі, якія сканструявалі ў гукавым павільёне. Міні-прадметы, размешчаныя па ўсім доме, распавядаюць пра прыгоды доктара Піма ў тыя часы, калі ён сам быў Чалавекам-мурашкай, і падказваюць, колькі эксперыментаў на памяншэнні прадметаў Хэнк Пім ажыццявіў перад тым, як узяцца за жывыя арганізмы.

Сцэны з паступовым памяншэннем Чалавека-мурашкі ствараныя з дапамогай камбініравання кадра макраздымкі (знятага звышбуйным планам) і захопу руху акцёраў і каскадзёраў. Для кожнага кадра стваралася мінідэкарацыя. Дызайнеры стварылі для супергероя 13 касцюмаў, 17 шлемаў, 17 паясоў, 8 пар пальчатак, 6 пар абутку, 15 заплечнікаў, 15 падшлемнікаў і 14 каўняроў. Кожны шлем складаецца з 54 дэталяў і 10 святлодыёдных індыкатараў. Калі дадаць яшчэ дэталі падшлемніка, то атрымаецца, што кожны шлем зроблены з больш чым 60 асобных частак.

Стужка атрымалася дынамічнай і прадуманай да дробязяў, якімі ніколі не грэбуе *Marvel*. У ёй хапае добрага гумару, ёсць і драматычныя, глыбокія моманты, якія раскрываюць герояў. Рэкамендуецца ўсім аматарам прыгодаў і супергеройскай фантастыкі.

**Настасся Уласава**

# З гразі ў князі і назад

**Генеральны дырэктар хакейнага «Дынама» Максім Суботкін арыштаваны Следчым камітэтам, яго абвінавачваюць у «нанясенні ўрону ў асабліва буйным памеры».**

Усе выхадныя працягвалася эпапея з генеральным дырэктарам хакейнага мінскага «Дынама» Максімам Суботкіным. Прыходзілі абсалютна розныя паведамленні, што яго арыштавалі, звольнілі з клуба. Тым не менш яшчэ ў панядзелак раніцай Суботкіна бачыць разам з цяжарнай жонкай у «Макдональдсе».

Суботкін — чалавек з тварам ідэальнага бээрэсэмаўца, ён скончыў Горацкую сельгасакадэмію па спецыяльнасці «сусветная эканоміка», пасля чаго ўладкаваўся на працу ў Бабруйскі гарвыканкам. Працягнуў вучобу чыноўнік у Акадэміі кіравання, там ён вучыўся з цяперашнім памочнікам Лукашэнкі па спорце Максімам Рыжанковым.

Суботкін узначальваў у Бабруйску хакейны клуб «Шыннік», даволі шараговы, між іншым. Функцыянер нават спрабаваў стаць дэпутатам палаты прадстаўнікоў, але па ягонай акрузе знайшоўся больш варты для ўлады кандыдат, таму з марамі пра дэпутацтва давялося развітацца. А вясной 2013 яму паступае прапанова стаць гендырэктарам мінскага «Дынама». Як кажуць у такіх выпадках, прапанова, ад якіх не прынята адмаўляцца.

Хакейнае «Дынама» — гэта самы багаты спартыўны клуб краіны. Напрыклад, перад пачаткам мінулага сезона ў Кантынентальнай хакейнай лізе называўся бюджэт «Дынама» ў памеры 20 мільёнаў даляраў. Для прыкладу, у футбольных БАТЭ і «Дынама» гадавыя бюджэты меншыя ў 3—4 разы.

Некалькі сезонаў у мінскім «Дынама» выступалі хакеісты, якія мелі гадавы заробак звыш мільёна даляраў. Апошні сезон такіх кантрактаў не было, але самыя «дарагія» гульцы ўсё адно атрымлівалі за год прыкладна 900 тысяч даляраў. Знаўку, калі параўнаць з футболам, то там самыя топавыя гульцы зарабляюць не больш чым 20 тысяч даляраў у месяц (такіх адзінкі).

Многія называюць мінскае «Дынама» асабістым праектам Аляксандра Лукашэнкі. Сапраўды, кіраўнік дзяржавы вядзе справы з «Дынама» асабіста. Напрыклад, летась ён ставіў задачу міністру ўнутраных спраў Ігару Шуневічу (старшыня назіральнай рады ХК «Дынама») навесці парадак у клубе, а найперш у ведамасцях аб заробках. «Няма выніку — няма заробку», — казаў Лукашэнка. Дарэчы, дынамаўцы вышэй за1/8 фіналу Кубка Гагарына пакуль не падымаліся.



«Хтосьці раней хадзіў на вуліцы, бегаў з клюшкай ці за мячом, цяпер сталі ў клубах чыноўнікамі. Кіраўнік клуба, дзесяць намеснікаў, сто чыноўнікаў у гэтым клубе. І маленькая каманда 20 гульцоў, тры трэнеры. Хто асноўныя грошы атрымлівае? Чыноўнікі клубаў. Дай бог міністрам такія грошы атрымліваць. Больш дурніцы такой не будзе», — гаварыў Лукашэнка.

Спартыўны сайт *by.tribuna.com* высветліў цікавы факт пра Суботкіна: ажно трое яго сваякоў працуе ў бабруйскім «Дынама-Шынніку», даччыным клубе мінскага «Дынама». Ды не абы-кім. Напрыклад, бацька Максім працаваў у службе аховы «Дынама-Шынніка», а цяпер цэлы начальнік каманды. Няслабы, згадзіцеся, кар'ерны рост. Цешча функцыянера ўзначальвае гатэльны комплекс «Гасцінічны двор», які ўваходзіць у структуру клуба. А цесць — менеджар па камерцыйных праектах бабруйскай каманды. Наўрад ці гэта мае дачыненне да крымінальнай справы, але штрышок да партрэта даволі паказальны.

У аўторак Следчы камітэт нарэшце афіцыйна пацвердзіў, што Суботкін арыштаваны. Цяпер праводзіцца расследаванне па крымінальнай справе па артыкуле 424 ч. 3 «Злоўжыванне службовымі паўнамоцтвамі, якія пацягнулі цяжкія наступствы ў выглядзе нанясення ўрону ў асабліва буйным памеры». Паводле гэтага артыкула генеральнаму дырэктару «Дынама» можа пагражаць зняволенне тэрмінам да 10 гадоў.

Выканаўцам абавязкаў генеральнага дырэктара «Дынама» прызначаны Уладзімір Беражкоў, які да гэтага часу быў генеральным менеджарам «Дынама», а яшчэ раней галоўным рэдактарам газеты «Прессбол». Удар па іміджы «Дынама» нанесены магутны. Паглядзім, як клуб будзе выблытвацца з гэтай сітуацыі.

**Зміцер Панкавец**

## За «ДНР» ваюе былы міліцыянер-забойца з Мінска?

У інтэрнэце, на канале ютуба «Новостной Донбасс», з'явілася інтэрв'ю з радавым 1-й Славянскай брыгады войска самаабвешчанай «Данецкай народнай рэспублікі». Чалавек у вайсковай форме (на фота) сцвярджае, што ён у мінулым служыў аператыўнікам у мінскай міліцыі і завуць яго Аляксей Русяеў.

Хто ён на самай справе і пра што змаўчаў?

У пачатку 1990-х у органах унутраных спраў сталіцы, дакладней у Першамайскім РАУС, сапраўды служыў аператыўны ўпаўнажаваны аддзела крымінальнага вышуку лейтэнант Аляксей Русяеў. За плячыма ў яго была армія і Віцебскі ветэрынарны інстытут. Час тады быў няпросты, з міліцыі звальняліся масава, а на службу бралі практычна ўсіх ахвотных.

Русяеў праслужыў не больш за два гады. У 1993 ці 1994 ён быў арыштаваны і асуджаны на 15 гадоў за забойства армянскага прадпрымальніка і шэраг іншых злачынстваў, у ліку якіх і збіццё затрыманых. Зразумела, што з пазбаўленнем звання афіцэра міліцыі.

Разам з ім тэрмін атрымаў яго родны брат і яшчэ адзін былы супрацоўнік міліцыі. Калі Русяеў вызваліўся і чым займаўся пасля, высветліць не ўдалося.

У інтэрв'ю на відэа чалавек, які назваўся былым мінскім аператыўнікам, сцвярджае, што яго пазыўны Серб, бо ён ваяваў добраахвотнікам у Югаславіі. На думку аднаго з ветэранаў мінскага вышуку, гэта малаімаверна.

«Як бы нашы кадры ў тыя гады ні працавалі, каб запоўніць вакансіі, але такую белую пляму ў біяграфіі яны б не рызыкнулі прапусціць, кожнага кандыдата правяралі пільна», — заўважыў суразмоўца *Naviny.by*.

Чалавек на відэа паведаміў, што ён прыехаў на Данбас у жніўні мінулага года. Быў пяць разоў паранены і страціў руку падчас бою ў раёне пасёлка Спартак. Цяпер ён аднаўляецца ў бальніцы і мае намер вярнуцца ў сваё падраздзяленне.

Калі шараговец арміі «ДНР» і чалавек, асуджаны ў «ліхія 90-я» за забойства ў Мінску, сапраўды адзін і той жа чалавек, то каментары, як гаворыцца, залішнія.

Калі Аляксей Русяеў вернецца на радзіму, то ён можа быць прыцягнуты да адказнасці па арт. 133 КК РБ («наёмніцтва»).

**«Беларускія навіны»**



**Пад Мінскам пахавалі спецназаўца, які ваяваў на баку «ДНР»**

Вадзім Васілеўскі, прафесійны беларускі спецназавец, не дажыў да 35-годдзя менш за 2 месяцы. Яго пахавалі 12 ліпеня. Яшчэ месяц таму яго бачылі ў бацькоўскай вёсцы. Пра тое, што ён едзе ваяваць на Данбас, кажуць, ніхто не ведаў. Паводле сяброў, ён загінуў на мяжы Растоўскай вобласці.

Васілеўскі служыў у армейскім спецназе, у 5 брыгадзе адмысловага прызначэння. Звольніўся каля 5 гадоў таму ў званні капітана. У яго засталіся 2 дзяцей, жонка, бацька і маці.

## Тры жанчыны з Гродна няўдала павялічылі вусны

**Сярод пацярпелых — 15-гадовая дзяўчына.**

Звычайна працэдура павелічэння вуснаў каштуе каля 230 даляраў. У прыватнага ж касметолага Дар'і яна каштавала ад 70 да 180 даляраў. Але вынікі кліентак не задаволілі — дзвюм спатрэбіцца хірургічная аперацыя.

Як распавяла Алена (імя змененае), адна з незадаволеных кліентаў, працэдура праводзілася на барным крэсле з выкарыстаннем шпрыцаў без упакоўкі. Праз пэўны час пасля аперацыі на вуснах з'явіліся нераўнамерныя ўшчыльненні і трэшчыны, ацёкі. З'явіліся дэфекты маўлення, стала цяжэй дыхаць, дэфармавалася ніжняя частка твару.

З падобнымі скаргамі ў цэнтр хараства і здароўя звярнуліся яшчэ дзве дзяўчыны. Адной з іх 15 год — яе бацькі пра працэдуру не ведалі, у выніку дзяўчыну паклалі ў лякарню для хірургічнай аперацыі.

Алене не дапамаглі шэсць працэдур аднаўлення ў іншых медцэнтрах. Дактары сцвярджаюць, што падчас нелегальнай аперацыі выкарыстоўваўся забаронены ў Беларусі біяпалімер. Калі і ўдасца дастаць з вуснаў Алены невядомае рэчыва, спатрэбіцца яшчэ два гады рэабілітацыі.

Касметолаг адмовілася ад каментароў ды заявіла, што не займаецца павелічэннем вуснаў. Міліцыя пачала праверку, пры наяўнасці прыкмет злачынства будзе распачатая крымінальная справа.

**Аляксандр Арсёнаў**

## Магілёвец заспеў жонку з палюбоўнікам і забіў абаіх

38-гадовы магілёвец забіў 41-гадовую жонку і яе 39-гадовага палюбоўніка, якіх заспеў падчас спатkання.

Злачынства адбылося 17 ліпеня каля 22.00 у адной з вёсак Магілёўскага раёна.

Як расказаў следчым падазраваны ў забойстве, яму патэлефанаваў знаёмы і паведаміў пра здраду жонкі, удакладніўшы, што тая з палюбоўнікам знаходзіцца ў доме сваёй маці. Мужчына адправіўся ў вёску да цешчы. Праз акно ён заўважыў жонку ў абдымках мужчыны. Адчыніў раму, залез у пакой і стаў збіваць суперніка.

Падазраваны кажа, што дрэнна памятае дэталі таго, што адбылося. Медыкаў і міліцыю выклікаў сам. Мужчына затрыманы, у дачыненні да яго заведзеная крымінальная справа.

**БелаПАН**

# Як бізнэсоўца-мільянера кінулі на грошы мінскія следчыя

Расіянін выклаў 30 тысяч даляраў за «аб'ектыўнае расследаванне», а затым здаў «дабрадзеяў» КДБ.

Толькі ў Мінскім гарадскім судзе скончыўся працэс над былымі супрацоўніцамі Міністэрства юстыцыі, якія за грошы прымалі экзамены ў юрыстаў, там жа пачаўся новы скандальны суд. Цяпер над афіцэрамі юстыцыі — былымі следчымі Цэнтральнага РАСК Мінска. Іх вінавацяць у атрыманні хабару ў 30 тысяч даляраў на дваіх.



Адзін з абвінавачаных — Сяргей Кастыка.

### Перадгісторыя на мільён даляраў

Галоўны сведка па гэтай справе — 69-гадовы расійскі бізнэсовец-мільянер Вячаслаў Пагосаў. Ён мае бізнэс у Расіі і Іспаніі, у Мінску валодае некалькімі кватэрамі. Тут жыве і вучыцца яго дачка (на яе, дарэчы, афармлены ў сталіцы тры кватэры). Разведзены.

Усё пачалося для яго ў 2011 годзе. «Я пражываў у катэджы. Але часта выязджаў па працы за мяжу. У адзін з маіх ад'ездаў залезлі ў катэдж і вынеслі адтуль сейф», — расказвае на судзе гісторыю бізнэсовец. У яго была сужыцельніца Вікторыя. Але тая то жыла з ім, то выязджала да маці. У той дзень яе таксама не было. Таму ключы пакінуў прыяцелю Анатолю, каб ён адамкнуў дом рыэлтарам. А той як прыехаў, убачыў, што сейфа няма. Выклікаў міліцыю. Праўда, слядоў узлому ў катэджы не выявілі. У сейфе ж было некалькі соцень тысяч даляраў, дарагі пярсцёнак, залатыя манеты.

Пагосаў адразу сцяміў, хто мог гэта зрабіць — расійскія прыяцелі, якія толькі і былі ў яго доме. Завялі крымінальную справу. Але, як кажа Пагосаў, паколькі злачынцы знаходзяцца ў Расіі, туды і меліся адправіць дакументы па справе. «Мне неадназразова казалі следчыя, што справу будуць адпраўляць у Расію. Але ўсё ніяк. І толькі месяц таму адправілі — пасля ўсіх гэтых падзей».

У сакавіку 2014 ён звярнуўся ў міліцыю з новай справай. З сейфа з мінскай кватэры зніклі 95 тысяч даляраў. Падазраваць пачаў сужыцельку Вікторыю. Кватэра была на сігналізацыі, ключ быў у жанчыны, а ўзлому не было. У дадатак, да гэтага неаднаразова лавіў жанчыну на такіх крадзяжах. «Ведаў, што яна крала з сейфа. Але дараваў ёй».

Так падвіслі дзве крымінальныя справы па заявах Пагосава. Між іншым, ён прыгадаў на судзе, што ўклаў у адзін з інвестпраектаў у Беларусі 5 мільёнаў даляраў. Вярнуліся да яго толькі два. Справа была нячыстая, і ён спрабаваў праз суд атрымаць грошы. Марна. А яшчэ ён камусьці ў Беларусі пазычыў 600 тысяч даляраў. І таксама не змог вярнуць. Не дапамаглі і ў органах.

«Маючы вопыт, што справы спыняліся і я нічога не дамагаўся, я і ў гэты раз не меў пэўнасці, што нехта будзе аб'ектыўна разбірацца. Мне хацелася вярнуць грошы, пярсцёнак. Пасля неяк у рэстаране Артур сказаў, ведаючы маю праблему, што можа пазнаёміць з чалавекам, які дапаможа. Я прыехаў у прызначаны дзень».

### «Магу дапамагчы за $10 тысяч»

Так у красавіку 2014 пачалося знаёмства бізнэсоўца з намеснікам начальніка Цэнтральнага раённага аддзела Следчага камітэта Мінска Алегам Мельнікавым. Пагосаў прасіў паспрыяць у «аб'ектыўным расследаванні».

«Магу дапамагчы, але для гэтага тысяч 10 даляраў хопіць», — прыгадвае на судзе словы следчага Вячаслаў Пагосаў. «Сказаў, што разбярэ справу, а пасля мы сустрэнемся».

Праз два дні яны сустрэліся на кватэры ў расіяніна. Там і перадаў Мельнікаву, як сцвярджае, 10 тысяч даляраў. «Каб аб'ектыўна разабраліся, даказалі, што гэта мая маёмасць і вярнулі. І пакаралі вінаватых».

Пагосаў і Мельнікаў трымалі кантакт праз агульнага сябра — рэстаратара Артура. Следчы сам настойваў на канфідэнцыйнасці: ніякіх прамых тэлефанаванняў, нават калі бізнэсоўца пачалі выклікаць у СК па яго справах, стараліся пазбягаць размоў у кабінеце. Некалькі сустрэч было ў лесе за горадам, па дарозе на Заслаўе.

На адну з сустрэч у рэстаран Мельнікаў прывёў свайго калегу Сяргея Кастыку, намесніка начальніка 1-га аддзялення Цэнтральнага РАСК. «Гэта для мяне было нечаканасцю. Мельнікаў паспяшаўся супакоіць: маўляў, гэта другі намеснік, які займаецца катэджам, будзе нам дапамагаць. Але мне гэта не спадабалася. У нейкі момант Мельнікаў адышоў, і Кастыка кажа: каб да канца давесці справу, патрэбны яшчэ 20 тысяч даляраў. Я сказаў, што ў мяне з сабой няма такіх грошай. «А дома ёсць?» — «Ёсць». — «Давай паедзем дамоў».

На кватэры Пагосаў перадаў кожнаму па 10 тысяч даляраў. Але справы ўсё не зрушаліся з месца. Нібыта расследаванне вялося, толькі выніку не было. Следчыя валілі ўсё на свайго начальніка: маўляў, ён справу закрывае, не дае ім расследаваць. Між іншым, справа па крадзяжы ў 2014 некалькі разоў спынялася, а затым зноў заводзілася.

А Пагосаў у выніку сам адшукаў тых, хто скраў яго сейф у 2011. «Калі я ў Расіі знайшоў гэтых людзей, яны частку скрадзенага аддалі. Але знік дарагі пярсцёнак — коштам 500 тысяч даляраў. Яны распілоўвалі сейф у знаёмага. Знайшоў яго: спадзяваўся, што пярсцёнак там у тайніку застаўся. Але не. Гаспадар гаража забраў тысяч 40—45 еўра і залатыя манеты — 100 ці 200 штук. Усё вярнуў. І яны расказалі, што ключы ад катэджа ўзамен на каштоўнасці (пярсцёнкі з брыльянтамі, завушніцы нейкія) ім дала Вікторыя. Для мяне гэта было шокам. Я з ёй 6 гадоў кантактаваў. Дапамагаў ва ўсім: плаціў за вучобу, плаціў за жыццё, за адзенне, так грошы даваў...»

Бізнэсовец у выніку настойваў, каб Мельнікаў і Кастыка вярнулі грошы, паколькі яны завалілі расследаванне. Тыя не аддавалі, а «маўчалі, нічога не гаварылі».

У кастрычніку 2014 расіянін звярнуўся ў КДБ і расказаў пра хабар. Яшчэ нейкі час следчых распрацоўвалі, а затым арыштавалі. Падрабязней пра тое, як вялася распрацоўка Мельнікава і Кастыкі, стане вядома пазней. Ім пагражае ад 5 да 15 гадоў калоніі з канфіскацыяй маёмасці.

**Сяргей Макарэвіч**

# За ампутаваную руку падлетку будуць судзіць хірурга

За нядбайства і нядобрасумленнасць.

Крымінальную справу за неналежнае выкананне прафесійных абавязкаў медыцынскім работнікам завялі яшчэ летась. Судзіць жа будуць хірурга Дубровенскай раённай бальніцы.

У жніўні 2014 у Следчы камітэт звярнулася жыхарка аграгарадка Якубава. Яе 11-гадоваму сыну ампутавалі руку. Як палічыла жанчына, медыкі не зрабілі ўсё магчымае для ўратавання дзіцяці.

Выявілася, што 25 ліпеня ў Аршанскую бальніцу з пераломам левай рукі прывезлі Стася. Яму наклалі гіпс і адпусцілі дадому. 28 ліпеня самаадчуванне дзіцяці пагоршала, і маці адвезла яго да хірурга ў Дуброўну.

«Аднак работнік установы аховы здароўя абследаванне малалетняга выканаў не ў поўным аб'ёме, не разгледзеў ускладненне, якое развівалася, не прызначыў неабходныя аналізы, не зрабіў тэрмаметрыю цела, а пры ўзмацненні ацёку не зняў гіпсавую павязку і не прыняў меры да яго шпіталізацыі, што ў сваю чаргу прывяло да амярцвення (гангрэны) левай рукі малалетняга пацыента і неабходнасці яе ампутацыі, — расказала прадстаўнік УСК па Віцебскай вобласці Іна Гарбачова. — Следства прыйшло да высновы, што медыцынскі работнік неналежным чынам выканаў свае прафесійныя абавязкі з прычыны нядбайнага і нядобрасумленнага стаўлення да іх».

Хірург дубровенскай бальніцы віну з сябе не здымае за гэты выпадак. Але лічыць, што адказваць павінны ўсе, у тым ліку медыкі з Оршы, якія насуперак інструкцыі не шпіталізавалі дзіця з пераломам.

**Кастусь Матушыч**

## Вышук



**Развёў на машынах**

Андрэй Басалыка падазраецца ў махлярстве: абяцаў прыгнаць з Расіі машыны, але ні аўто, ні грошы не вяртаў. Пацярпелі людзі з Гомеля і Мінска. Калі вы таксама сталі ахвярай Басалыкі, звярніцеся ў Гомельскі ГАСК на (0232) 60-74-25.

## Сцісла

### Фальшыўкі ідуць з Расіі

У першым паўгоддзі 2015 у Беларусі зарэгістравана больш фактаў падробкі грошай, чым у аналагічным перыядзе летась (471 крымінальная справа супраць 385). Найбольш падробліваюць даляры ЗША (252 выпадкі), амаль траціна выпадкаў — расійскія рублі (137), затым еўра (53), беларускія рублі (25). Тройчы падраблялі кітайскія юані, адзін раз украінскую грыўню. Найбольш фальшывых грошай увезена ў Беларусь з Расіі (64,8%), затым ідуць Украіна, Польшча, Літва, іншыя краіны Еўропы (8,1%). Затрымалі 6 фальшывапманетчыкаў, канфіскавана 1136 падробленых банкнот.

### П'яны ў дым газонакасільшчык

У Мінску затрыманы кіроўца газонакасілкі з амаль дзесяціразовым перавышэннем нормы ўтрымання алкаголю ў крыві — 3,14 праміле. Пра п'янага ў дым паведамілі ў міліцыю мінчукі. Ён ездзіў па тратуары на самаходнай газонакасілачнай машыне. Між іншым, 39-гадовы кіроўца меў правы амаль усіх катэгорый, нават правa кіравання тралейбусам. Складзены пратакол за выхад на працу нападпітку.

### Інвалід-калясачнік парэзаў суседа

У Даматканавіцкую бальніцу сястрынскага догляду (Клецкі раён), якая аказвае медыцынскую і сацыяльную дапамогу доўгажыхарам і інвалідам, 14 ліпеня на лячэнне паступіў 66-гадовы пацыент — адnaнoгі інвалід-калясачнік. Праз дзень інвалід пасварыўся з 63-гадовым суседам: нібыта старэйшы выкраў у малодшага чатыры галоўкі цыбулі і шклянку кефіру. Сусед патрабаваў вярнуць скрадзенае, пры гэтым стаў пагражаць інваліду расправай. У адказ той схапіў нож і некалькі разоў ударыў крыўдзіцеля ў грудзі і жывот.

### Спалілі жыўцом

Следчы камітэт скончыў расследаванне забойства 27-гадовага фермера з Пінскага раёна. «Наша Ніва» пісала пра гэты выпадак. Цяпер сталі вядомыя падрабязнасці. Малады чалавек у 2010 пазычыў у прадпрымальніка грошы, але аддаваў іх пакрысе. Пасля адной са сварак паналічаных працэнтах 40-гадовы прадпрымальнік



вырашыў расправіцца з даўжніком. Падгаварыў дапамагчы 20-гадовага сына і яго сябра. У ноч на 8 студзеня 2015 яны напалі на фермера, ударылі бітай і пагрузілі ў багажнік машыны. Вывезлі ў лес у Іванаўскі раён, дзе звязалі і 7 разоў стрэлілі ў яго з пісталета (чатыры кулі трапілі ў цела). Затым аблілі яго бензінам і падпалілі. Экспертыза паказала, што фермер быў яшчэ жывы, калі яго палілі.

**КМ**

# Палессе, якога хутка не стане: Кудрычы

Журналісты «Нашай Нівы» пабывалі **ў ваколіцах Пінска**, дзе захаваліся старадаўнія хаты з чаротавымі стрэхамі, і пагаварылі з найстарэйшай жыхаркай тых краёў.

Курадава-Кудрычы-Крывічы — палескі трохкутнік на ўсход ад Пінска. Глухія мясціны, дзе яшчэ сям-там відаць старыя хаты і хлявы, пакрытыя чаротам. Больш за ўсё такой аўтэнтыкі захавалася ў Кудрычах — некалькі гадоў таму гэтую вёску нават называлі беларускай Венецыяй і «Меккай айчыннага агратурызму», куды няспынна ехалі турысты з Еўропы і Расіі, каб паглядзець на сярэднявечны побыт тутэйшых жыхароў.

Але так было. Цяпер у вёсцы засталося 14 чалавек, палова з якіх прыязджае сюды толькі на лета. Сувязі з цывілізацыяй таксама разладжаныя — рака Ясельда высахла і цеплаход з Пінска ўжо некалькі год не ходзіць, а на старой гравійнай дарозе няма нават указальніка на з'езд у вёску.



Усе свае 86 год баба Ганзя пражыла ў Кубрычах.

### Баба Ганзя

«Раней тут 125 хат было. А вы, увогуле, чаму цікавіцеся?» — нешматлікія жыхары спачатку з недаверам рэагуюць на чужакоў, але потым разнявольваюцца і паказваюць на хату найстарэйшай жыхаркі Кудрычаў — бабы Ганзі.

Па пашпарце яна Ганна. Ёй 86 год, і яна рэдка падымаецца з ложка. І яна гатовая бясконца гаварыць пра міфічныя часы старога Палесся, калі людзі жылі сярод некранутых меліярацыяй балот і на чоўнах плавалі адзін да аднаго ў госці.

«Пра старынку я вам шмат чаго магу расказаць, — пачынае баба Ганзя з выразным палескім акцэнтам. — Памятаю, калі малая я была, бацька каня на вялікі човен разам з сахою станавіў, і мы плылі далёка да поля, дзе зямлю аралі і жыта сеялі. Чоўны былі нам тады за машыну, бо па вясне так Кудрычы залівала, што нават да хлява даводзілася лодкаю плыць. Але ўвогуле тут кепска жылі, небагата, даводзілася самім лапці плесці ды зімою і летам у іх хадзіць».

### «Трудныя дні»

А за савецкім часам, паводле бабы Ганзі, жыць стала яшчэ цяжэй.

«Мой бацька ў ноч, пасля «труднага дня» (кпіна з савецкага тэрміна «трудодень» — АГ), рыбу лавіў, не спаўшы, а мяне зацемна на Пінск пасылаў. Я яе прадавала, а за тую капейку купляла ў горадзе хлеб і прыхавана дахаты везла. Бо ўсё ж адбіралі — у дзядзькі майго савецкі брыгадзір каня і хлеў адабраў, а потым не даў дровы забраць, што ў тым хляве засталіся. Дык праз такі здзек дзядзька сям'ю сваю ўзяў і паехаў на цаліну, а разам з ім і яшчэ людзі мясцовыя выправіліся, бо на ўладу крыўдавалі. Агулам дваццаць сем'яў з'ехала з вёскі! А ў іх па 5—6 дзяцей было... Мала хто з іх вярнуўся, дзядзька мой вось там і памёр. А брыгадзір той усё пагаворваў: у Маскве — Сталін, а я — у Кудрычах. Брыдка, бо свой жа быў, тутэйшы. Такое сумленне ў беларусаў і цяпер — адзін аднаго крыўдзяць», — кажа баба Ганзя.



Яшчэ некалькі гадоў таму рака Ясельда была на некалькі метраў вышэй.



Хат з чаротавымі стрэхамі ўжо не засталося — толькі хлявы.

Прыгадвала яна і вясёлае — хвіліны адпачынку.

«Хоць і не багата мы жылі, але весела. Мо весялей за вас, — узбадзёрыўшыся, кажа баба Ганзя. — Раней жа ж мэблі бракавала, хаты прасторныя былі. Вось шукалі мы найвялікшую хату, і гаспадару плацілі за дзве ночы — ён нам яе на гэты час аддаваў. Далей наймалі музыкаў і гулялі на выходных, песні спявалі, танцавалі так, што зямля ходуном хадзіла. Людзей столькі было, што і ў сенцах стаялі, а малеча ў вокны зазірала ды прытупвала».

Але лёс не даў той моладзі нагуляцца — пачалася вайна.

«Шмат хто з вёскі за палякаў ваяваў, а потым тых, хто выжыў, саветы на фронт забралі. Засталіся толькі старыя ды малеч. Я з 70-гадовым дзедам гаспадарку вяла, кароў трымалі. Але не так мы немцаў баяліся, як партызанаў — моцна тыя нашых людзей рабавалі. Прыходзілі ўначы і апошняга кабана ў людзей забіралі, порткі здымалі з ног. Наш сусед неяк купіў сабе ў горадзе новыя нагавіцы, дык хтосьці пра гэта партызанам данёс — яны прыйшлі ды давай яго збіваць, каб порткі тыя аддаў. І забралі. Баяліся мы іх», — прыгадвае старая жанчына. Сярод жаху вайны жыхары Кудрычаў мелі ўсё ж адзін станоўчы момант: немцы неяк сплаўлялі па Ясельдзе дрэва, дык мясцовыя частку бярвення вылавілі ды збудавалі сабе новыя хаты.



Чаротавая страха.

### Самы пад плотам

«Потым вайна скончылася, мужыкі, хто жывы, вярнуліся, я замуж выйшла. Але ж тады не так было, як у вас цяпер, што вы ходзіце ўсё, шукаеце кагосьці. Раней бацькі на сваты прывялі і ўсё — вось вы і сям'я. Але каханне якое было! Чатырох дзяцей выгадавала, што дай Божа! Есці ім было чаго — край такі, што рыбы процьма проста. Неяк мы наўпрост каля плоту самоў лавілі, у іх толькі ікры на 12 кілаграмаў было! Цяпер ужо такога няма, меліярацыяй усё спаганілі», — маркуе баба Гандзя.

«Мы ўсе на рыбе раслі! А сёння гэтыя забароны паўводзілі... Вось рыбнагляд прыязджае і пікнікі проста ў нас на вачах ладзіць. А калі тутэйшыя будуць рыбу лавіць — штрафы. А няма грошай — сядзі ў турме. Толькі і відаць па тэлевізары: такі дзеяч выступае і кажа, колькі яны там «браканьераў» злавілі. А ён сам ведае, як гэтая рыба ловіцца? Так, як сяляне яе ловяць, рыбу ніколі не вынішчыш. А яны самі сваімі меліярацыямі рыбу забілі, няма чаго цяпер людзей катаваць. Бывае так, што яна сама ў агарод па вясне заплывае ды душыцца там, а яе чапаць нельга. Затое калі сёлета дзікі бульбу паелі, то дапамогі ні ад каго не дачакаешся — вось вам, кажуць, патроны на адстрэл. Але ж тут ніхто ўжо стрэльбу ў руках не ўтрымае», — абураецца баба Ганзя ды падсумоўвае, што неўзабаве згіне вёска, а з ёю і памяць пра мінулыя часы.

**Арцём Гарбацэвіч,**
**фота Ірыны Арахоўскай**




**Фотафакт**

**Ва ўрочышчы Борык, што пад Гарадком на Беласточчыне, на выхадных прайшло «Басовішча» — самы стары фестываль беларускай рок-музыкі. Нягледзячы на дажджы, ён сабраў некалькі тысяч чалавек. Ігралі Лявон Вольскі, *Brutto* з Міхалком, гродзенскія «Дзецюкі», *Pomidor/off*. У конкурснай праграме перамаглі маладыя гурты *Navi* і *TonqiXod*. Кульмінацыяй фэсту стала ўсеагульнае выкананне «Воінаў святла».**

# Патрыярх эміграцыі

19 ліпеня беларуская грамада Нью-Ёрка адсвяткавала **стагоддзе Антона Шукелойця.**

Цягам свайго жыцця ён бачыў Беларусь, якая належала да Польшчы, была далучаная да Савецкага Саюза і акупаваная нацысцкімі войскамі. Настаўнічаў, выкладаў беларускую мову, сядзеў у савецкай турме, працаваў у музеі ў акупаваным Менску. Уцячы з Беларусі яму давялося перад бальшавікамі — спачатку ў Нямеччыну, а потым у ЗША, дзе Антон Шукелойць стаў адным з заснавальнікаў самай вялікай беларускай арганізацыі ў Амерыцы — Беларуска-Амерыканскага Задзіночання, — якой кіраваў больш за трыццаць гадоў.

У чым сакрэт яго даўгалецця? «Мяркую, вясковыя харчы, гародніна, малочныя вырабы, — кажа сам Шукелойць. — Штодня мы елі суп — таксама з гародніны. Мяса мы мелі толькі два разы на тыдзень — у нядзелю і чацвер, падаецца. Таму прыгожым маладым сем'ям я раю есці суп. Гарэлкі я не піў зусім, а цыгарэты кінуў пасля прыезду ў Амерыку. І невялікую гімнастыку раблю дагэтуль ля адчыненага акна».



**In memoriam**

# Сяргей Друшчыц

Вядомы архітэктар і рэстаўратар памёр на 75-м годзе жыцця.

Друшчыц нарадзіўся ў 1941 у Пружанах у сям'і інтэлігентаў. Бацька — дырэктар школы, маці — настаўніца. Адзін дзядзька, Васіль Друшчыц, быў прафесарам-гісторыкам, старшынёй камісіі Інбелкульту па гісторыі гарадоў. Яго рэпрэсавалі і расстралялі ў 1937. Другі дзядзька, Уладзімер Друшчыц, — вядомы прафесар-палеантолаг. Дзяцінства Сяргея Друшчыца прайшло ў Бярозе Картузскай. Пасля школы ён абраў прафесію архітэктара.

Сяргей Друшчыц быў адным з заснавальнікаў рэстаўрацыйнай справы ў Беларусі. Фактычна ён стварыў рэстаўрацыйныя арганізацыі, быў галоўным архітэктарам рэстаўрацыйных майстэрняў. На працягу доўгага часу ўзначальваў вытворчае аб'яднанне «Белрэстаўрацыя» і інстытут «Белспецпраектрэстаўрацыя», у якім працавалі найлепшыя спецыялісты Беларусі: архітэктары, канструктары, гісторыкі, мастацтвазнаўцы, археолагі. Фактычна пры ім у канцы 1970-х — пачатку 1980-х быў створаны новы кірунак у сферы аховы спадчыны — архітэктурная археалогія.

Архітэктар Аляксандар Канаваленка знаёмы з Сяргеем Друшчыцам з дзяцінства — у Канаваленкі маці Друшчыца была класнай кіраўніцай:



«Сяргей Аляксандравіч шмат зрабіў у рэстаўрацыі беларускіх замкаў. Галоўны ягоны аб'ект — гэта помнікі архітэктуры ў Нясвіжы. Нягледзячы на тое, што былі ўжо праблемы са здароўем, працягваў працаваць на рэстаўрацыі замка ў Навагрудку, дзе павінны былі разгортвацца вялікія працы па адраджэнні гэтага помніка. Не паспеў...»

Сяргей Друшчыц не баяўся размаўляць па-беларуску, кажа старшыня Таварыства беларускай мовы Алег Трусаў, які ў 1976 прыйшоў на працу ў рэстаўрацыйныя майстэрні, якія ачольваў Сяргей Друшчыц:

«Я ўпершыню ўбачыў вялікую групу людзей на чале з Друшчыцам, якія ў працоўны час паміж сабой размаўлялі па-беларуску. Гэта мяне настолькі здзівіла, што з цягам часу я і сам перайшоў на беларускую мову. Туды часта прыходзіў Зянон Пазняк. Нават пасля таго, як быў так званы «машэраўскі разгром беларусаў» у 1973, майстэрні заставаліся ў Мінску адной з нешматлікіх выспачак, дзе людзі размаўлялі па-беларуску падчас працы. І рэстаўратарам ён быў вельмі таленавітым, здольным, шмат аб'ектаў зрабіў. Беларусь страціла цікавага чалавека, патрыёта, які не баяўся праяўляць беларускасць нават у цяжкія 1970-я гады».

Справу бацькі працягвае сын — архітэктар Міхаіл Друшчыц, які працуе ў «Мінскградзе». Пахавалі Сяргея Друшчыца на Паўночных могілках.

**Радыё «Свабода»**

# Алег Луцэвіч

Графік, сябра Саюза мастакоў СССР Алег Луцэвіч нарадзіўся ў 1924. Перад пачаткам ІІ Сусветнай вайны жыў у Пухавічах. Там застаўся ў акупацыі. Працаваў, наладжваў сувязі з падполлем і партызанамі. Увесну 1943 пайшоў у партызанскі атрад, які дзейнічаў у навакольных лясах. Да вызвалення Беларусі змагаўся з акупантамі, удзельнічаў у засадах, падрывах чыгункі, мастоў, хадзіў у выведку, паведамляецца ў фэйсбуку Адама Глобуса.

Ад ліпеня 1944, быў адным з першых супрацоўнікаў музея Вялікай Айчыннай вайны.

Працуючы настаўнікам у Мастацкай вучэльні імя Глебава, стварыў вакол сабе кола вучняў,



фанатычна адданых мастацтву, людзей апантаных ідэяй служэння яму. Меў надзвычайны дар захапіць ідэяй аб'ёмнага бачання і малявання, стварэння трохмернага малюнка. Шмат для каго з вучняў быў не проста настаўнікам, але духоўным гуру.

У інтэрв'ю «Настаўніцкай газеце» некалькі год таму Алег Луцэвіч так выказаўся пра сэнс мастацтва: «Я лічу, што хараство хрысціянскай ідэі немагчымае без культуры на зямлі. Спачатку ўсё-такі культура, а потым рэлігія і ўсё астатняе. У гэтым сэнс».

**АГ**

# У Расіі прыпісваюць сабе перамогу ў Грунвальдскай бітве

У Расіі на рэкламных экранах у грамадскім транспарце з'явілася сацыяльная рэклама, якая вызначае Грунвальдскую бітву як расейскую вайсковую перамогу.

Раней сайт «История России» ўключыў Грунвальдскую бітву ў спіс расейскіх вайсковых перамогаў.

На сайце паведамляецца, што ў польска-літоўскім войску былі 43 рускія харугвы і «найбольш надзейнай часткай літоўскага войска былі рускія палкі». Таксама паведамляецца, што тры смаленскія палкі, у адрозненне ад іншых атрадаў, «не адступілі, працягваючы змаганне з крыжакамі», і — у адрозненне ад літоўскіх, якія адступілі, — «не далі крыжакам зайсці ў тыл».

«История России» — гэта федэральны праект. А «Расейскае ваенна-гістарычнае таварыства», створанае ўказам Уладзіміра Пуціна, павінна «супрацьдзейнічаць спробам скажэння ваеннай гісторыі».

Паводле беларускага гісторыка Алеся Краўцэвіча, Расія не мае ніякага дачынення да перамогі ў Грунвальдскай бітве: «Наадварот, і ў ранейшыя часы, і ў тыя часы Маскоўскае княства ўступала ў саюз з крыжакамі, спрабавала дамовіцца і з імперыяй германскай, і з Тэўтонскім орднам супраць нас. То бок тады Масковія фармальна, псіхалагічна, па настроі, па ментальнасці была на баку крыжакоў.

Вось гэтыя імперскія амбіцыі «при издыхании» праяўляюцца ў розных аспектах жыцця, не толькі ў расейскім урадзе, але і ў расейскай грамадскасці. Бачым, які працэнт падтрымлівае агрэсію Пуціна супраць Украіны. І гэта тыя самыя праявы. Гавараць пра тое, што там былі «рускія палкі», — гэта поўная лухта. Там былі палкі Вялікага Княства Літоўскага, а так званыя «рускія» былі там смаленскія. А Смаленск тады быў у складзе ВКЛ, і Смаленск — гэта этнічная тэрыторыя Беларусі. Для нас гэтая інфармацыя на расейскім сайце яшчэ раз паказвае на тое, што расейцы не лічаць нас самастойным народам, яны лічаць нас сваёй часткай. І паказвае на тое, што небяспека для нашай краіны ідзе ад Расіі».

Чаму менавіта цяпер у Расіі згадалі пра Грунвальдскую бітву? «Яны цяпер гісторыю ламаюць па новай, — кажа Краўцэвіч. — Бо ў 90-я гады, калі распаўся Савецкі Саюз, з'явілася больш аб'ектыўных прац расейскіх гісторыкаў, якія бралі пад увагу нацыянальныя інтарэсы ўкраінцаў, беларусаў. А потым, калі паднялася цана на нафту, яны пачалі вяртацца да імперскіх амбіцыяў. Бо гэта такая праява комплексу непаўнавартасці. Яны сябе адчуваюць ніжэйшымі культурна параўнальна з еўрапейцамі, але маюць задавальненне ў тым, што, маўляў, нас усе баяцца. Гэта такая імперская хвароба, фантом. Імперыі ў Расеі няма, а яна ім баліць. Гэта сумна. Відома, у гістарычнай перспектыве з іхніх амбіцыяў нічога не выйдзе. Але людзі гінуць, людзей шкада: і расейцаў, і тых, на каго яны нападаюць».

**Радыё «Свабода»**

# Луцкевіч, Ластоўскі, Мікуліч, Некрашэвіч, Паўлюкевіч, але не тыя

Кар’ера і лёс беларускіх нацыянал-камуністаў. Піша гісторык **Анатоль Сідарэвіч**.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Займаючыся гісторыяй Беларускай Сацыялістычнай Грамады, Беларускай Народнай Рэспублікі, даследуючы жыццёвы шлях Антона Луцкевіча, нейк незаўважна выйшаў я на нашых нацыянал-камуністаў — на людзей, якія стваралі і будавалі Савецкую Беларусь.

Заглыбляючыся ў тэму, я раблю для сябе адно адкрыццё за адным пра людзей, пік кар’еры якіх прыйшоўся на перыяд так званых беларусізацыі і каранізацыі. Адбывалася станаўленне беларускай нацыянальнай палітычнай эліты, у дзейнасці якой камунізм спалучаўся з беларускасцю (у некаторых, наадварот, беларускасць спалучалася з камунізмам).

Сталінская фракцыя ў бальшавіцкай партыі цярпела гэтых людзей да часу. А з пераломнага 1929-га пачалося іх планамернае знішчэнне, пік якога прыпаў на чэрвень 1937 — чэрвень 1938 г., на перыяд паміж XVI і XVII з’ездамі Кампартыі (бальшавікоў) Беларусі. Дастаткова сказаць, што ў чэрвені 1938 г. у склад Цэнтральнага Камітэта КП(б)Б не трапіў ніводзін член ЦК, выбраны ў чэрвені 1937-га. Практычна цалкам памяняўся корпус сакратароў раённых і гарадскіх камітэтаў партыі.

У час працы з матэрыяламі з’ездаў КП(б)Б я не мог не зацікавіцца асобамі камуністаў Луцкевіча, Ластоўскага, Мікулічаў, Некрашэвіча і Паўлюкевіча.

### Алесь Паўлюкевіч

Пачалося ўсё з прачытанага: «Вось што кажа Паўлюкевіч: «Чарвякоў заявіў, што вясной 1920 г., перад пачаткам наступу на Варшаву, ЦК РКП вырашаў пытанне стварэння Савецкай Беларусі, фактычна не прыняў ніякага рашэння і пытанне павісла ў паветры; даручылі гэту справу на вырашэнне Смілгі». І далей: «...Калі б наступ на Варшаву быў удалы, то, відаць, Савецкая Беларусь не была б створаная». (...) Як гэта назваць, тав. Чарвякоў? Як гэта назваць, бо гэта ж паклёп на партыю, паклёп на гісторыю партыі».

Словы прамаўляюцца з трыбуны XVI з’езда Кампартыі (бальшавікоў) Беларусі (чэрвень 1937 г.). Ідзе накат на старшыню ЦВК БССР Аляксандра Чарвякова. Сталін ужо напісаў у Менск: «Калі з’езд вырашыць зняць Чарвякова з пасады, мы пярэчыць не будзем». Каб патрэбнае рашэнне было прынята, дэлегатам для агучвання выдаюцца «матэрыялы» з кабінетаў НКВД, дзе ідуць допыты арыштаваных «ворагаў народа». З гэтымі «матэрыяламі» ў руках супраць Чарвякова выступае народны камісар асветы Аляксандр Варончанка. Як жа так, таварыш Чарвякоў? Бальшавікі былі шчырымі прыхільнікамі беларускай дзяржаўнасці, а вы ўзводзіце паклёп на партыю.

Чарвякоў казаў праўду. Бальшавік Івар Смілга 14 ліпеня 1920 года, калі Чырвоная Армія ішла на захад, пісаў у Маскву, што трэба абвясціць Беларускую рэспубліку, але пакуль што *in abstracto*. Гэта значыць, пабачым, ці ўдасца зрабіць савецкаю рэспублікай Польшчу. Лёс Савецкай Беларусі быў пастаўлены ў залежнасць ад таго, як складуцца замежнапалітычныя абставіны для Масквы.

Чарвякоў казаў праўду Паўлюкевічу. Якому Паўлюкевічу? Арсеню? Лекару, дзеячу Беларускай Рады Случчыны, які ўзначаліў шпіталь падчас Слуцкага паўстання, а потым асеў у Вільні? Дзе і калі Чарвякоў мог з ім бачыцца? У 1928 годзе палякі абвінавацілі Паўлюкевіча ў працы на Саўдэпію і запраторылі яго на 12 гадоў за краты. Звесткі пра яшчэ аднаго Паўлюкевіча знаходжу ў энцыклапедычным даведніку Леаніда Маракова.

Аляксандр Паўлюкевіч нарадзіўся ў 1887 г. у Вялікіх Бярозаўцах цяперашняга Шчучынскага раёна. Быў сябрам бальшавіцкай партыі да 1936. Меў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту (27 кастрычніка 1937 г.) пенсіянер («магчыма, як вайсковец або інвалід», піша Л. Маракоў). Арыштаваны ў Маскве. Расстраляны тамсама 20 студзеня 1938 г.

Гартаючы папкі былога партыйнага архіва КПБ, я змог высветліць, што Паўлюкевіч Алесь (так менаваў ён сябе ў адной з анкет) уступіў у бальшавіцкую партыю падчас грамадзянскай вайны ў Расіі — у 1918 г. У 1923 г. ён ужо загадваў агітацыйна-прапагандысцкім аддзелам у Бабруйскім павятовым камітэце КП(б)Б. Калі ў склад БССР былі вернутыя яе ўсходнія тэрыторыі, Паўлюкевіча накіравалі туды праводзіць беларусізацыю. У 1926–1928 г. ён быў старшынёю Віцебскага акруговага выканаўчага камітэта (АВК). З Віцебска на кароткі час яго перавялі на расстрэльную пасаду загадчыка Белдзяржвыдавецтва. А неўзабаве накіравалі ў Маскву — пастаянным прадстаўніком СНК БССР пры СНК СССР. Працаваў Паўлюкевіч у Маскве ў 1928–1930 г. Далей ягоны жыццёвы шлях я не прасачыў. Як відаць з інфармацыі Л. Маракова, у 1936-м Паўлюкевіча выключылі з партыі. Смяротны прысуд яму быў перадвырашаны.

### Якуб Ластоўскі

Алеся Паўлюкевіча на пасадзе пастаяннага прадстаўніка СНК БССР у Маскве змяніў Якуб Ластоўскі. Гэты дзеяч нарадзіўся ці не ў 1892 г. У бальшавіцкую партыю прыйшоў у 1918 г. У 1924–1926 г. Ластоўскі працаваў намеснікам страшыні Мазырскага акруговага выканаўчага камітэта. 6 красавіка 1926 г. яго вылучылі на пасаду старшыні АВК, але супраць кандыдатуры, пэўна, меліся пярэчанні, таму ў лістападзе 1926 — маі 1927 гг. мы бачым яго ў крэсле намесніка старшыні Калінінскага АВК. 8 чэрвеня 1927 г. у сувязі з ліквідацыяй акругі Ластоўскага накіравалі пад загад Гомельскага акруговага камітэта КП(б)Б, старшынёю Рабочага банка. У 1928 г. яго перакінулі ў Мазыр на пасаду старшыні АВК. А ў 1930 г. ён стаў кіраўніком Саюзкалгасбанка. Вось з гэтай пасады яго ў 1931-м накіравалі працаваць у Маскву.

Быў Я. Ластоўскі і сябрам ЦК КП(б)Б. У гэтай якасці ён прысутнічаў у чэрвені 1937-га на XVI партыйным з’ездзе. 12 чэрвеня слова на з’ездзе атрымаў сакратар Бабруйскага раённага камітэта Эдзід Вайнман. У яго была задача граміць былога старшыню СНК БССР Мікалая Галадзеда. А з тае прычыны, што Ластоўскі быў прадстаўніком Галадзеда ў Маскве, не магло не дастацца і яму. Тым больш што для «прынцыповай бальшавіцкай крытыкі» меліся падставы. Паслухаем ардэнаносца Вайнмана:

«...Ластоўскі, пастпрэд у Маскве. ...Я, як сябар ЦК, ніколі не чуў яго на пленуме ЦК ці дзе яшчэ і не ведаю, ці хто-небудзь з іншых сябраў ЦК чуў яго як сябра ЦК. Вы думаеце, ён пасіўны чалавек? Не, дзе трэба, ён актыўны, факт. У Маскве існаваў так званы беларускі клуб, які аб’ядноўваў球 рознае нацдэмаўскае ахвосце. У 1936 г. Бюро [ЦК КП(б)Б] абмяркоўвала пытанне гэтае, і было прапанавана даць спагнанне Ластоўскаму, які разам з Галадзедам падтрымліваў гэты клуб. Тав. Галадзед, вядома, абараняў Ластоўскага на Бюро, Дзякаў (народны камісар асветы. — **А. С.**) выступаў у іншай ролі — наступаў на Ластоўскага. Мы тут бачым манеўр гэтых асоб, Галадзеда і Дзякава, іх інтарэсы сышліся. Але дзе ж ЦК?... Я лічу, што ён [Ластоўскі] не толькі не варты звання сябра ЦК, але ён падхалім, ён толькі чамаданы ў стане насіць Галадзеду і больш нічога». У зале раздаліся галасы: «Правільна».

Народны камісар асветы Анані Дзякаў у дні XVI з’езда КП(б)Б ужо даваў паказанні следчым НКВД. Праз колькі дзён арыштуюць Галадзеда. А Эдзід Вайнман, як і Якуб Ластоўскі, трапіць у знакамітыя сталінскія расстрэльныя спісы. І Аляксандр Варончанка, наступнік Ананія Дзякава на пасадзе наркама асветы, таксама трапіць у тыя спісы. Іх, Дзякава і Варончанку, расстраляюць у адну ноч. Разам з Анатолем Вольным, Платонам Галавачом, Алесем Дударом, Міхасём Зарэцкім, Васілём Кавалём, Тодарам Кляшторным...

### Алесь Некрашэвіч

Асоба аднафамільца расстралянага акадэміка Сцяпана Некрашэвіча зацікавіла мяне даўнавата, бо я чытаў ягоную брашуру «Беларускі нацыянал-фашызм і нацыянал-дэмакратызм», у якой нямала ўвагі нададзена Антону Луцкевічу.

Цяпер я ведаю, што Алесь (Аляксандр) Некрашэвіч нарадзіўся ў 1899 г. У 1921 г. уступіў у бальшавіцкую партыю. У 1923–1925 гг. мы бачым яго на партыйнай працы ў Бабруйску і (кароткі час) у Парычах. У 1925 г. ён пабыў загадчыкам агітацыйна-прапагандысцкага аддзела (АПА) у Мазырскім акруговым камітэце КП(б)Б, а потым (1925–1927) працаваў загадчыкам савецка-партыйнай школы 2-й ступені ў Віцебску. 14 студзеня 1927 г. Некрашэвіч становіцца загадчыкам АПА ў Віцебскім акругкаме КП(б)Б. 5 сакавіка 1928 г. ЦК КП(б)Б адклікаў яго для працы ў рэдакцыі газеты «Звязда», аднак там яму не давялося працаваць, бо ўжо 23 сакавіка 1928 г. ён быў прызначаны на пасаду дырэктара 2-га Беларускага дзяржаўнага тэатра (Віцебск).

Пішучы пра Алеся Паўлюкевіча, я зазначыў, што ён кароткі час займаў расстрэльную пасаду загадчыка Белдзяржвыдавецтва. На XVI з’ездзе КП(б)Б загадчык аддзела друку і выдавецтваў у ЦК Мікалай Казюк сцвярджаў, што пачынаючы з 1925 г. кіраўнічае крэсла ў гэтай установе займалі «заўзятыя ворагі» Зміцер Жылуновіч (Цішка Гартны), Іван Цвікевіч (брат прэм’ер-міністра БНР), «трацкіст» Фадзей Браўковіч, якія «ўзначальвалі выдавецтва... з дапамогай ворага Галадзеда», а потым «тэрарыст, польскі шпіён і дыверсант» Павел Шастакоў. Зміцеру Жылуновічу яго таварышы па партыі атруцілі жыццё, а Цвікевіча, Браўковіча і Шастакова расстралялі. Думаю, не пазбег гэтае долі і «нацдэм» Алесь Некрашэвіч, загадчык Белдзяржвыдавецтва ў 1930–1933 г.

### Мікулічы: Базыль і Емяльян

Некалі трэба будзе засесці і напісаць пра Данілу Валковіча, кароткачасовага наступніка Мікалая Галадзеда на пасадзе старшыні СНК. Гэтую пасаду ён заслужыў хоць бы тым, што збіраў кампрамат на Галадзеда. І на XVI з’ездзе КП(б)Б ён вінаваціў Галадзеда за тое, што той хацеў вярнуць у БССР людзей, якіх у свой час партбюракраты выгналі з Беларусі. Сярод тых выгнаных Валковіч назваў і «вядомага нацдэма» Мікуліча.

Гаворка, хутчэй за ўсё, пра адміністратара і гаспадарніка Васіля (Базыля, як ён пісаў у анкеце) Мікуліча. Сябар бальшавіцкай партыі з 1919 г. Мікуліч нарадзіўся ў 1892 г. У 1917–1918 г. служыў загадчыкам пададдзела ў наркмаце шляхоў зносін Расіі, у 1918–1921 гг. загадваў Барысаўскім павятовым земаддзелам. У 1921–1923 гг. ён ужо загадчык аддзела і сакратар Мазырскага павятовага выканкама, а ў 1923–1926 гг. — старшыня Мазырскага павятовага (потым акруговага) выканкама. У красавіку 1926 г. Б. Мікуліча адклікалі пад загад ЦК КП(б)Б, а неўзабаве ён заняў пасаду намесніка наркама фінансаў БССР. І больш звестак пра яго ў мяне няма.

Ёсць у былым партыйным архіве і звесткі пра Емяльяна Мікуліча, настаўніка, які нарадзіўся ў 1888 г. У 1919 г. ён працававаў у Бабруйскім павятовым аддзеле народнай адукацыі (АНА). Потым (пэўна, у час польскай акупацыі) стаў настаўнікам у в. Бацэвічы (радзіма Аркадзя Смоліча, цяпер Клічаўскі раён). У 1920–1921 гг. Е. Мікуліч стаў на чале Бацэвіцкага валаснога рэвалюцыйнага камітэта, а потым і валаснога выканкама. З Бацэвічаў яго камандзіравалі на пасаду старшыні Парыцкага валаснога выканкама, а ў 1922 г. адклікалі на партыйную працу ў Бабруйск.

Там Мікуліч доўга не затрымаўся. З 1923 па чэрвень 1925 г. мы бачым яго на пасадах сакратара Бабруйскага павятовага выканкама, загадчыка акруговага АНА, намесніка старшыні акруговага выканкама, зноў загадчыка акруговага АНА. У сакавіку 1925 г. меркавалася перавесці яго на пасаду старшыні Буда-Кашалёўскага РВК, але ў чэрвені 1925 г. камандзіравалі пад загад ЦК КП(б)Б. Трохі папрацаваўшы ў Менску загадчыкам аддзела ў НКВД, Е. Мікуліч вярнуўся на ніву народнай адукацыі. У 1926–1929 гг. ён узначальваў акруговы АНА ў Полацку. У красавіку 1929 г. ён стаў, як напісана ў асабовай справе, намеснікам дырэктара даследчага інстытута ў Менску. У той час у Менску, як мне вядома, быў толькі адзін навукова-даследчы інстытут — сельскай і лясной гаспадаркі. У кіраўніцтва гэтай установы ўваходзілі амаль выключна «ворагі народа»: наркам земляробства Зміцер Прышчэпаў, географ і эканаміст Аркадзь Смоліч, акадэмік Гаўрыла Гарэцкі... Гэтыя і іншыя дзеячы будуць у 1930 г. арыштаваныя ў «справе» так званага Саюза вызвалення Беларусі. Ці не захапіла тая хваля тэрору і Емяльяна Мікуліча?

* * *

А Луцкевіч, анансаваны ў загалоўку? Быў такі Варфаламей Луцкевіч, аднагодак Антона Луцкевіча. Стары рэвалюцыянер, які прайшоў праз Сібір. У адрозненне ад Алеся Паўлюкевіча, Якуба Ластоўскага, Алеся Некрашэвіча, Базыля і Емяльяна Мікулічаў, ягоная біяграма маецца ў «Беларускай савецкай энцыклапедыі» (са здымкам) і ў «Энцыкладепыі гісторыі Беларусі».

# На заданні




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Аляксандр Апон.**
Гумарыстычная п’еса.

Гарадская вуліца забудаваная аднапавярховымі прыватнымі дамамі. У кустах, узбоч дарогі, ляжыць Рыжы. Наводдаль, каля плоту, кешкаюцца куры. Падбягае Муха.

**Муха:** Рыжы, здароў!
**Рыжы:** Прывітанне!
**Муха:** Ты што тут, на курэй палюеш?
**Рыжы:** Не, якое там паляванне, на заданні я.
**Муха:** На якім заданні?
**Рыжы:** Гаспадар даў: аббрахаць тут трэба адных.
**Муха:** Навошта?
**Рыжы:** Дзеля маральнага задавальнення.
**Муха:** Гэта як катоў?
**Рыжы:** Нешта накшталт таго.
**Муха:** А можа, я з табой паляжу?
**Рыжы:** Давай.
**Муха** *(лягае і куснуўшы сябе за плячо)*: Скочкі, халера, замучылі.
**Рыжы:** Ад скочак падла дапамагае, толькі трэба добра выкачацца.
**Муха:** Ведаю, але дзе ты яе знойдзеш? Бывала, прачнешся на золку, падбяжыш на кірмаш, а там у яме за агароджай чаго толькі не было — цяляты ляжалі, дык гэтак выкачаешся, не тое што скочкі падушацца, сам ад смуроду ледзь жывы ходзіш, а цяпер труса няшчаснага няма *(хапае сябе за бок)*.
**Рыжы:** А на мясакамбінаце не быў?
**Муха:** Быў.
**Рыжы:** І што?
**Муха:** Нічога.
**Рыжы:** Тады дустам трэба паспрабаваць труціць.
**Муха:** Дустам? Зноў жа, дзе яго ўзяць? З балончыка гаспадар папырскае, а карысці нуль. Але што ты хочаш — H2CO4!
**Рыжы:** Што?
**Муха:** А чорт яго ведае што — хімія нейкая. У нас малодшы сын гаспадара хімік. Якіясь спайсы вырабляе, дык як накурыцца — паратунку няма, хоць на ланцуг садзі. Барусю за вуха ўкусіў.
**Рыжы:** Якога Барусю?
**Муха:** Нашага парсючка. Гаспадыня яму вячэру ў вядры прынесла, выліла ў карыта і пайшла, а сынок, якраз абкураны быў, залез і цап таго за вуха.
**Рыжы:** Авой, жарсці якія!
**Муха:** І не кажы.
**Рыжы:** І што?
**Муха:** Што-што — Баруся з пераляку праз загарадку як сігане! Добра, што весніцы на вуліцу былі прычыненыя, а то прыйшлося б потым па ўсім наваколлі шукаць. Бо шкода: ладны ўжо парсючок — уга колькі костак будзе.
**Рыжы:** Ага, парсючок тым лепшы, чым костак больш.
**Муха:** Гэта вядома. Мне ўчора такая костка перапала (прыплюшчвае вочы)... перадаць табе не магу, яшчэ ў роце смачна. У краме гаспадыня набыла, прынесла, панюхала, потым кажа: «Не, не магу, смярдзіць нечым — і ўсё». А мне гэткі водар! Сяджу і слінкі глытаю. А яна падумала-падумала і да мяне: «Муха, на, лапай».
**Рыжы:** Пашанцавала табе.
**Муха:** Як ніколі. Эх, каб яна сёння зноў у краму пайшла... Дык каго ты тут урэшце пільнуеш?
**Рыжы:** Як табе растлумачыць, такія, ведаеш, заўсёды па двое ходзяць, з палкамі.
**Муха:** Ого, з палкамі!
**Рыжы:** З палкамі і ў такіх ботах, што трымайся падалей.
**Муха:** А, ведаю, пра каго ты. З гэтымі лепей не звязвацца, а як убачыш — абмінаць за дзесяць крокаў.
**Рыжы:** Я і не збіраюся з імі цалавацца, гаўкну колькі разоў і ва ўсе лапаткі дамоў.
**Муха:** Але навошта?
**Рыжы:** Дык я ж табе казаў: гаспадар паслаў, яны яму папярок горла сталі.
**Муха:** Вось што *(чухае сябе лапай за вухам)*.
**Рыжы:** Забралі яго тут надысь, на машыне прыехалі, я за прыбіральняй хаваўся.
**Муха:** І што?
**Рыжы:** Нічога: гаспадара з тыдзень не было, потым з’явіўся — брудны, шчаціннем зарослы, злосны. «Я, кажа, гэтага ім не дарую, я ім пакажу па чым фунт ліха, яны яшчэ ў мяне паскачуць». А гаспадыня яму: «Аксціся, дзякуй скажы, што жывы выйшаў». А ён: «Хай лепш забілі б!»
**Муха:** А чаго яны да яго прычапіліся?
**Рыжы:** Я толкам не ведаю, але быццам за тое, што па вуліцы хадзіў.
**Муха:** Ідзі ты!
**Рыжы:** Ага, толькі не проста так хадзіў, а пры гэтым махаў рукамі і лаяўся матам
**Муха:** Якім такім матам?
**Рыжы:** Ну, «курва» там казаў, «бляха», «сука».
**Муха:** Сука? *(Круціць галавой.)* Дзе сука?
**Рыжы:** Нідзе, гэта мянушка такая.
**Муха:** Эх, гэтых людзей не разбярэш. Вось сам памяркуй: такога, каб мой гаспадар не махаў рукамі і не лаяўся матам, амаль не бывае, але ж яго чамусьці не забіраюць, хаця гаспадыня кажа, што даўно пара, і я з ёй згодны. І наадварот: калі аднойчы ляжаў сабе, як ні ў чым не было, у крапіве каля плоту, з’явіліся як міленькія. Дык гаспадыня на ўсю вуліцу вэрхалу нарабіла, каб не забіралі, а гаспадару хоць бы хны — ляжыць рукі склаўшы і ні гу-гу. І што ты на гэта скажаш?
**Рыжы:** Нічога не скажу, бо тое самае і мой: памыўся, пагаліўся, добра паеў, паспаў; здаецца, чаго табе яшчэ? А не — як быў злосным, так злосным і застаўся. Дзень злосны ходзіць, другі. Я ўжо баюся на вочы паказвацца, каб не трапіць пад гарачую руку, нават падумваў сысці куды на час, перасядзець дзе. А сёння падзывае сам. Падыхожу: «Што такое?» Ён: «Справа ёсць». Я: «Што за справа?» А сам думаю, няўжо на паляванне пойдзем? Хвост як прапелер ад радасці закруціўся. Але, аказалася, не пра паляванне ішло. Прысеў ён на ганку на прыступку, папяроскай задыміў і кажа: «Слухай, Рыжы, зрабі ласку, аббрашы гэтых, што па двое ходзяць, з палкамі і ў ботах, калі на нашай вуліцы з’явяцца. Я б і сам, але нельга мне, зноў прыедуць на машыне, забяруць. Не па службе, Рыжы, а па дружбе, га?» Вось так я і тут.
**Муха:** Ну, то мусіць ужо аддзячыць як мае быць
**Рыжы:** Ды я, Муха, не за падзяку. Шкода мне яго, небараку, баюся, каб не выкінуў якую штуку.
**Муха:** Што ёсць, тое ёсць — да штук яны здатныя.

З-за рога дома выходзяць дваіх, з палкамі, прычэпленымі да пояса, у чорных вялізных ботах.

**Муха:** Яны?
**Рыжы:** Яны.
**Муха:** Давай, пачынай, я цябе падтрымаю.
**Рыжы** *(ускочыўшы на ногі)*: Гаў! Гаў! Гаў!...
**Муха:** Гаў! Гаў! Гаў...

**Аляксандр Апон**

пісьменнік. Жыве ў Гродне. Зарабляе на жыццё прадпрымальніцтвам.

Валянціна Аксак

## Іншага раю не будзе

40 тыдняў
кунежыцца немаўля
ў райскім цемрыве
і аднойчы
вынырвае радасна
ў светлае пекла,
40 дзён
блукае душа
над роднымі краявідамі,
скідваючы цяжар
пякельнага быту
прад будучым райскім
бязважкім нябытам,
40 гадоў
пакутуюць сужэнцы,
гадуючы сподзеў
на рай перад раем,
каб рэштаю год усвядоміць,
што іншага раю
за той,
што мінуў,
ім не дадзена ўведаць.

## Дзень народзінаў

Свеціць
смаліцкае сонца,
п'ю
шведскую каву
ў кампаніі
рэмантантных ружаў,
дзесьці ў Менску
спяць
мае каханыя мужчыны,
і прывід
самотнай красуні
сёння ноччу
абмінуў
мой сад.

## Цень і водар

Выбіраюць —
не чалавека,
і тым больш —
не жанчыну,
а ўсяго толькі —
узмах павейкаў,
цень усмешкі
і водар флюідаў.
Найчасцей —
супрацьлеглы.

# Кніга года

Іван Пятровіч Данілаў — доктар медыцынскіх навук, прафесар, былы дырэктар Інстытута крыві, які і цяпер, у 91 год, працягвае дапамагаць пацыентам.

Іван Пятровіч — ветэран вайны, сапраўдны: ён быў разведчыкам у партызанскім атрадзе, потым ваяваў на фронце, быў паранены, мае ордэн Айчыннай вайны І ступені, медаль «За баявыя заслугі»...

Пра што яго кніга? У першых радках, «ад аўтара», гаворыцца ясна: «Ва Украіне адбылася бяда. Кіраўніцтва на чале з былым прэзідэнтам Януковічам крала столькі, што паставіла краіну на мяжу катастрофы, і народ паўстаў. Аслабелая ў эканамічных і вайсковых адносінах краіна стала лёгкай здабычай агрэсіўнага паўночнага суседа. (...) Такога павароту падзей і нахабнага ўмяшальніцтва Расіі ў справы суседняй дзяржавы ніхто ў Еўропе ды Амерыцы не чакаў».

Як гэта магло адбыцца? У чым корань агрэсіўнасці Расіі? Як гэта праяўлялася ў гісторыі адносін славянскіх народаў? Якая роля ў гэтым Рускай праваслаўнай царквы? На гэтыя пытанні аўтар адказвае, я б сказала, з дакладнасцю медыцынскага дыягназу.

Жыццёвая мудрасць дапамагае Данілаву лёгка разбіваць




Иван Данилов. Недовоевавшие. — Мінск: Смэлток, 2014 — 128 с.

прапагандысцкія штампы, якімі спрабуе тлуміць галовы людзям маскоўская прапаганда. Кажаце, бандэраўцы былі фашыстамі? А вось Іван Данілаў, які сутыкаўся з байцамі УПА ў партызанскім атрадзе, расказвае, як «бандэраўцы» змагаліся і з саветамі, і з немцамі за незалежнасць сваёй краіны... І дае сапраўдную гісторыю развіцця нацыянальнага руху ва Украіне. Расказвае пра свайго таварыша-партызана, які перайшоў да іх з «зялёнай» украінскай паліцыі. І нагадвае, што насамрэч рускіх пасобнікаў фашыстаў — уласаўцаў і іншых — было на парадак больш, чым падобных фарміраванняў украінцаў.

Выказвае аўтар і сваё стаўленне да так званых «дзеячаў культуры», якія падтрымалі пуцінскую агрэсію ва Украіне. Аналізуючы, напрыклад, інтэрв’ю спевака Льва Лешчанкі, ён паказвае і духоўную дэградацыю, і гістарычнае невуцтва гэтых асоб...

Асобны раздзел прысвечаны ролі РПЦ у сённяшнім украінска-расейскім канфлікце і ўвогуле ў гісторыі. Аўтар карыстаецца цытатамі з выступаў асоб, што граюць не апошнюю ролю ў гэтай арганізацыі. І калі іх чытаеш, то ўспамінаецца грубае, але дакладнае чатырохрадкоўе Ігара Губермана:

Есть люди (их ужасно много),
Чьи жизни отданы тому,
Чтоб обос…ать идею Бога
Своим служением Ему.

...Такія кнігі, як гэта, спрыяюць таму, каб «ачышчаць кроў» беларусаў ад атруты прапаганды. На добры лад, гэтую кнігу трэба выпусціць вялізным накладам і за дзяржаўны кошт. Але наша дзяржава чамусьці не зацікаўленая ў існаванні жывой, праўдзівай культуры ды жывых, нецэнзураваных кніг. Пры такой уладзе жывём.

А я ганаруся тым, што такі мудры, таленавіты ва ўсім чалавек — мой зямляк з Брэстчыны.

**Наталка Бабіна**




**На выхадных у Мінску прайшоў фестываль авіяцыйнага спорту «Мірнае неба». Яго апафеозам сталася запусканне паўсотні паветраных шароў. Паглядзець на такое шоу ў Баравую прыехала шмат людзей.**




**Беларускія мусульмане святкуюць заканчэнне месяца Рамадан. Яны правялі 29-дзённы пост, калі піць і есці ім дазвалялася толькі пасля заходу і да ўсходу сонца. На фота: мусульмане ў Смілавічах.**



**Украінская мастачка Дар'я Марчанка прэзентавала работу «Твар вайны» — партрэт Уладзіміра Пуціна памерам 240х170 см, складзены з 5 тысяч гільзаў. Гільзы ўзятыя з розных частак фронту на Данбасе. «Кожны элемент, з якога складаецца партрэт, мог забраць або выратаваць жыццё салдата, так ці інакш ёсць яго лёсам», — пішуць пра работу.**




**Штогод у Глыбокім праходзіць «Вішнёвы фэст», які прыпадае на сезон паспявання вішняў. Фэст доўжыцца цэлы тыдзень, але самая актыўная яго частка праходзіць у суботу. У гэты дзень прыязджае шмат гасцей, не толькі з суседніх гарадоў і Мінска, але і з замежжа.**



**Французскі гоншчык «Формулы-1» Жуль Б'янкі, які летась атрымаў цяжкія траўмы ў выніку аварыі на Гран-пры Японіі, памёр 17 ліпеня. 25-гадовы гоншчык, які выступаў за каманду «Маруся», быў у коме з 5 кастрычніка. Ён стаў першым гоншчыкам «Формулы-1», які загінуў ад траўмаў, атрыманых пры аварыі, пасля трохразовага чэмпіёна свету бразільца Айртана Сены, які загінуў у італьянскай Імале ў 1994 годзе.**

## ☺ Анекдоты і жарты

* * *

«УУУРРААААА! Мама прыехала!» — бегла бабуля, абганяючы сваіх унукаў.

* * *

Загадка: мяне цяжка атрымаць, лёгка страціць і немагчыма выкарыстоўваць. Адказ: дыплом аб вышэйшай адукацыі.

* * *

– Уотсан, гэты хлопец плануе вас забіць.

– Кхпвхакхр?

– Элементарна, Уотсан, ён зараз душыць вас гальштукам.

***

Да лекара ходзяць, каб пачуць, як хвароба называецца, а потым чытаць пра яе ў інтэрнэце.

* * *

Праца — гэта калі ўстаеш а 7.00, а прачынаешся толькі а 12.00. Адпачынак — калі прачынаешся а 7.00, а ўстаеш толькі а 12.00.

* * *

– Каханы, забегла да цябе на працу і ўзяла сто даляраў з твайго пінжака.

– Правільна зрабіла, каханая, я там ужо тры месяцы не працую.

* * *

– Ты гэты футбол любіш больш, чым мяне!

– Затое я цябе люблю больш, чым бабслей, мастацкую гімнастыку, кёрлінг, сінхроннае плаванне і фігурнае катанне разам узятыя!

* * *

– Доктар, я толькі што даведаўся: мяне будзе апераваць практыкант Аляхновіч.

– Так, аперацыя заўтра.

– Дык заражэ ж!

– А мы яму двоечку паставім.

* * *

На медаглядзе прызыўнікоў лекар кажа:

– Прачытайце, што напісана на табліцы.

– Якая табліца? Я не бачу ніякай табліцы.

– Выдатна. Там сапраўды няма табліцы. Прыдатны!

## «НН» сто гадоў з вамі

**Недахват цукру.** У Вільні ізноў даецца ў знакі «цукровы» голад. Колькі ўжо дзён, як трудна дастаць гэтага прысмаку ў крамах. А па чыгунцы чуць не кожны дзень цукар у Вільню прывозяць.

**«НН». №27. 1915.**

**Беларуская мова** стае мовай багатых. «Бізнэсоўцы зразумелі: як толькі беларускамоўны брэнд — адразу прыбытак. Таму што людзям у вочы кідаецца. Ідзе расейскамоўная балбатня на БТ. Паўза, і пачынаецца рэклама «Самсунга», «Снежкі» ці «Рэно», на добрай беларускай мове, прыгожымі галасамі. Спажывец адразу прачынаецца, запамінае, ідзе і купляе», — кажа старшыня ТБМ Алег Трусаў.

**«НН». №27. 2005.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

шэф-рэдактар Андрэй Дынько
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 6022. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 21.07.2015.
Замова №2615.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

9 771819 161008 15027